

Айцец Канстанцін БАЙКО→3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




Родныя вандроўкі→9


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 15 (3178) Год LXII | Беласток, 9 красавіка 2017 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫЯ СЦЯГІ І ВОКЛІЧЫ «ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ» луналі перад сядзібай Генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку. 1 красавіка прайшоў тут пікет за вызваленне палітычных арыштантаў у Беларусі. Больш за 20 чалавек прыйшло са сцягамі і фатаграфіямі тых, якія за адстойванне сваіх правоў апынуліся ў турмах.**

# Свабоды і праўды!

Акцыя была сарганізаванай студэнтамі з Беларусі, якія па палітычных прычынах не могуць вучыцца на радзіме. Большасць з іх мае магчымасць завяршыць навуку ў Польшчы дзякуючы праграме Кастуся Каліноўскага. Менавіта яны добра ведаюць як цяжка, ці нават немагчыма нармальна жыць на Беларусі, маючы іншыя палітычныя погляды.

— Першасная задача — гэта вызваленне палітвязняў, але мы працягваем патрабаваць поўную забарону дэкрэта № 3, — заклікаў Андрусь Цянюта. — Зыходзячы з ганебнага эканамічнага стану, парушэнняў Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь з боку ўлады і сілавікоў патрабуем неадкладнай адстаўкі ўрада!



### ДЭКРЭТ № 3 — ДЭКРЭТ АБ «ДАРМАЕДАХ»

Дэкрэт аб дармаедах тычыцца амаль паўмільёна грамадзян Беларусі. Гэта каля 5 працэнтаў грамадства. Асобы, якія працуюць менш чым 183 дні ў годзе, абавязаны заплаціць разавы падатак (каля 800 злотых). Абгрунтоўваючы ўвядзенне дэкрэта, кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка сказаў: «Дармаеды, паразіты павінны працаваць. Хто не плаціць падаткаў, той павінен плаціць». Гэта перапоўніла чашу цярпення. Беларусы, якія да гэтага часу ігнаравалі заклікі апазіцыі, на гэты раз выйшлі на вуліцу. З сярэдзіны лютага, калі ўпершыню прайшоў марш абураных супраць дэкрэта ад дармаедах, пратэсты пачаліся ў розных гарадах Беларусі. Не толькі ў Мінску, але і ў многіх правінцыйных гарадах, дзе да гэтага часу які-небудзь антырэжымны пікет не адбыўся. Стрыманне Лукашэнкам дэкрэта аб дармаедах дэманстрацый не спыніла. Першыя былі законныя, а іншыя ўжо не. Міліцыя спачатку не ўмешвалася, але ў канчатковым выніку ў турму трапіла амаль 200 чалавек, з якіх частку ўжо асудзілі. Па словах лідара Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алеся Бяляцкага, у цяперашні час сядзіць у турме 17 чалавек, а больш за сто было асуджаных да адміністратыўных пакаранняў.

### СВАБОДУ ПАЛІТВЯЗНЯМ

«Uwolnić aresztowanych Białorusinów», «Freedom for political prisoners» — між іншым такія лозунгі трымалі ўдзельнікі пікета. Сярод іх быў пляменнік Аляксандра Міхалевіча, кандыдата ад апазіцыі ў прэзідэнты на выбарах у 2010 годзе (пасля чаго была вялікая хваля рэпрэсій). Сцяпан Міхалевіч пытаў:

— Колькі яшчэ нам трэба чакаць канца папсаванага рэжыму, які дзейнічае супраць звыклых грамадзян. Надышоў час, у якім нам трэба супрацьстаўляцца гэтай уладзе. Гэта той час, калі бяздзейнасць з'яўляецца небяспечнай для ўсіх беларусаў.

У сувязі з гэтымі падзеямі ярка было відаць, наколькі важная роля незалежных СМІ такіх як тэлеканал Белсат, якому пагражала закрыццё, Радыё Рацыя, Радыё Свабода ці «Наша ніва». Прагляды сайтаў у гэты час пабольшыліся ў шмат разоў, а некаторыя матэрыялы, якія з'яўляліся ў сацсетках, назірала нават паўмільёна карыстальнікаў. Гэта, вядома, на гэты момант асноўная альтэрнатыўная крыніца інфармацыі для беларускага грамадства. Варвара Нікалайчук менавіта пры дапамозе незалежных СМІ адсочвала падзеі на Беларусі.

— Я не чакала, што будзе так жорстка, — прызналася Варвара. — Бачыла відэа, было вельмі шмат дарагой тэхнікі. За некалькі дзён пачалі саджаць людзей, часта такіх, якія нават не планавалі пратэстаў.

Варвара ў руках трымала фатаграфію Мірaслава Лазоўскага — арганізатара «Белага легіёна».

—Тая арганізацыя распалася яшчэ ў 2000 годзе, — тлумачыць Варвара. — Аднак зараз ён сядзіць па гэтай справе. Я не ведаю, што яны там надумалі, але нібыта Лазоўскі планаваў на 25 сакавіка ладзіць такую жорсткую рэвалюцыю. А такога насамрэч не было.

Згодна з дадзенымі Праваахоўнага цэнтра «Вясна» перад Генконсульствам у Беластоку прагучала 27 прозвішчаў затрыманых па так званай справе «баевікоў». Хаця пікет прайшоў 1 красавіка, у суботу, арганізатары звярнулі свае словы да працаўнікоў беларускага консульства.

— Мы патрабуем вызвалення ўсіх арыштаваных падчас мірнага пратэсту ў Беларусі, і рэабілітацыі ўсіх незаконна пакараных. Адчыненне крымінальных спраў у дачыненні людзей у спартовых касцюмах, якія збівалі і выкрадалі людзей! Я ўпэўнены, што гэтыя людзі не з'яўляліся прадстаўнікамі сілавых структур, бо міліцыянты і нават КДБісты павінны весці затрыманні згодна з заканадаўствам, а гэта арганізаваны бандытызм!

### САЛІДАРНАСЦЬ

У пікеце прынялі ўдзел прадстаўнікі польскіх партый і грамадскіх рухаў. Голас узяў таксама Павал Крутуль з партыі «Навачэсна»: Мы тут сабраліся і мы супраць насілля, якое адбываецца за ўсходняй мяжой. Нядаўняя гісторыя, маю тут на ўвазе падзеі на Майдане ва Украіне, павінна нас чагосьці навучыць. Не можам дапусціць, каб гэта паўтарылася і на Беларусі. Пакуль што ўсё да таго вядзе. Таму патрэбны голас Еўрасаюза і блізкіх суседзяў: Польшчы і Украіны.

Нагадаем, што 30 сакавіка прадстаўнікі партыі «Навачэсна» ў Варшаве напісалі зварот да амбасадара Беларусі Аляксандра Авяр'янава, дзе ясна зазначылі, што „не пагаджаюцца з затрыманнямі ўдзельнікаў мірных дэманстрацый». Адкрыта таксама напісалі, што «такія дзеянні характэрныя дыктатуры».

Міхал Іванюк, беларус з Падляшша і член партыі «Разам», адзначыў, што сорамам было б не ведаць, што адбываецца 80 кіламетраў ад Беластока і не салідарызавацца.

— Гэта важнае, каб беларусы ведалі, што падтрымліваем іхнія змаганні за палітычную і эканамічную незалежнасць.

### СТУДЭНЦКАЯ АКЦЫЯ

Арганізатары пікету, студэнты з Беларусі, таксама закранулі тэму цяжкасцей маладых людзей, якія мірнай дарогай хочуць адстойваць свае правы.

— Патрабуем скончыць палітычны пераслед студэнтаў. Цяперашнія студэнты — гэта будучыня нашай Беларусі, а з-за «няправільных» палітычных поглядаў ужо выключаны з універсітэта кіраўнік моладзі БНФ Юрый Лукашэвіч, — сказаў Андрусь Цянюта. — У дні нават дазволеных акцый пратэсту студэнтам арганізавалі занняткі, прымушалі падпісваць дакументы аб тым, што яны не будуць браць удзел у дазволеных акцыях пратэсту.

Антон Кастоў у сваю чаргу ставіў пытанні:

— Ці магчыма такое стаўленне да чалавека ў вольнай і дэмакратычнай краіне? У якім законе прапісана, што над пакаранымі людзьмі можна здзекавацца? Дзе гарантаваныя Канстытуцыяй годныя адносіны да чалавека?

Пытанні застаюцца без адказу, але студэнты не здаюцца. Хочуць ладзіць чарговыя акцыі.

— Павал Севярынец, ідучы чарговы раз у турму сказаў, што акцыя аднаго, пяці, дзесяці ці тысячы людзей, гэта важная падтрымка, — адзначыў Яўген Вапа. — Гэта доказ, што людзі з патрэбы сэрца і душы хочуць паказаць сваю салідарнасць. І тут бачу галоўны сэнс пікету.

❖Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**



## РАДА БНР АСУДЖАЕ ГВАЛТ СУПРАЦЬ ДЭМАНСТРАНТАЎ, ЗАКЛІКАЕ ЎЖЫЦЬ ПАЛІТЫЧНЫ І ЭКАНАМІЧНЫ ЦІСК НА ПРОРАСЕЙСКІ РЭЖЫМ У МЕНСКУ — ЗАЯВА

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі рашуча асуджае гвалтоўныя дзеянні сілавых структураў лукашэнкаўскага рэжыму супраць грамадзянаў падчас мірных дэманстрацыяў 25 сакавіка 2017 году.

Дзень Волі — галоўнае сьвята беларускага народу і гадавіна падзеі, ад якой бярэ адлік гісторыя сучаснай беларускай дзяржаўнасьці. У гэты дзень Беларусь упершыню абвесьціла сябе незалежнай дэмакратычнай дзяржаваю. У будучыні гэты дзень без сумневу будзе галоўным дзяржаўным сьвятам Беларусі.

Перашкаджаючы беларусам сьвяткаваць 25 сакавіка, дыктатарскі рэжым на чале з грамадзянінам Аляксандрам Лукашэнкам, які мінімум ад 1999 году незаконна займае пасаду Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, у чарговы раз прадэманстраваў сваю антыбеларускую і антыдэмакратычную натуру, а таксама сваю беспасярэднюю пераемнасьць з таталітарнай савецкай акупацыйнай уладай.

Злачынствам, зьдзейсьненым пэрсанальна Аляксандрам Лукашэнкам, а таксама асобамі, што бяруць удзел у рэпрэсіях супраць грамадзянаў Беларусі, у будучыні будзе дадзеная адпаведная юрыдычная ацэнка, як гэта адбылося ўва ўсіх іншых краінах Усходняй Эўропы пасьля іхнага вызваленьня з-пад савецкай акупацыі або прасавецкіх камуністычных дыктатураў.

Рада БНР патрабуе неадкладнага вызваленьня ўсіх актывістаў, арыштаваных 25 сакавіка і напярэдадні, чый лік складае некалькі соцень чалавек.

Рада БНР зьвяртае ўвагу міжнароднай супольнасьці на факты далейшых яскравых парушэньняў правоў чалавека ў Беларусі, адсутнасьць будзь-якога прагрэсу ў справе дэмакратызацыі.

Рада БНР заклікае краіны Эўрапейскага Зьвязу, Злучаныя Штаты Амэрыкі, Канаду і іншыя краіны Вольнага Сьвету ажыцьцявіць актыўны палітычны і эканамічны ціск на прарасейскую дыктатуру ў Беларусі з мэтай неадкладнай дэмакратычнай трансфармацыі і павагі да правоў чалавека ў Беларусі.





# Развагі ў зале суда

Заходжу ў будынак суда. У зале Вадзім Саранчукоў. Ён толькі што адсядзеў 13 сутак за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі. Новы пратакол на яго склалі, пакуль ён быў у камеры. Вадзім не разумее за што. Але калі ёсць пратакол, то будзе і прысуд.

Побач Ежы Грыгенча, таксама нядаўна адсядзеў за тое ж самае. І пакуль ён сядзеў, яго паспелі звазіць на суд і ўпаяць яшчэ адно пакаранне. І Сяргей Верамеенка тут. Дзень назад ён склаў скаргу, што яго выкралі ў той час, як ён, адбыўшы тэрмін свайго пакарання, мусіў выйсці на волю. Выйсці належным чынам не ўдалося. Сяргей кажа, што каб не пагоня яго сяброў за той машынай, на якой яго некуды везлі, то невядома куды завезлі б.

Побач паплечнікі, праваабаронцы, незалежныя журналісты. Няма Эдварда Дмухоўскага, бо ён сядзіць свае 15 сутак. За тое ж самае, канешне. Чакаем яшчэ двух, каго будуць судзіць. Але размова завязваецца не пра суды.

— Ці чыталі інтэрв'ю з былым намеснікам галоўнага рэдактара польскай газеты „Rzeczpospolita", які заклікае Захад не звяртаць увагі на рэпрэсіі ў Беларусі, а наадварот, супрацоўнічаць з рэжымам? — кажа адзін.

— Для мяне там нічога новага, — адказвае другі. — Тое, што з'явіліся палітыканы, якія нас, беларусаў, прадаюць самым ганебным для іх чынам, справа відавочная.

— А чаму так?

— Прычын шмат. Прыкладам, многія з іх ужо даўно не выкарыстоўваюць у сваім моўным лексіконе слова „сумленне", ці слова „справядлівасць", ці...

Дагаварыць не ўдаецца. Пачынаецца суд. Суддзя патрабуе не перашкаджаць, бо ў зале смех з-за паказанняў сведак. Складці з іхных паказанняў суцэльную карціну — задача павышанай складанасці. Ну але ж тыя сведкі — звычайныя беларускія беспрацоўныя. Іншая справа, былы намеснік галоўнага рэдактара польскай газеты „Rzeczpospolita", а сёння дырэктар па пытаннях стратэгіі Warsaw Enterprise Institute, дарадца кампаній па вытворчасці ўзбраення... І гэтая настолькі высокапастаўленая асоба на пытанне карэспандэнта, ці ўяўляе ён, каб у 1980-я гады Рональд Рэйган сказаў: „Палякі, мы ставім на Ярузельскага, бо ён хоць нейкая надзея, што ў Еўропе няма савецкіх танкаў. Таму мы і заплюшчым вочы на рэпрэсіі ў вашай краіне?", адказвае: „Не, я не ўяўляю, каб Рэйган такое сказаў... А Беларусь, на маю думку, свой шанц цяпер выкарыстаць не можа. Гэта рэальная палітыка"... Складці нейкі суцэльны малюнак з гэтых супрацьлеглых высноў здаецца яшчэ цяжэй, чым з супрацьлеглых паказанняў сведак на судзе Саранчукова.

Рэальная палітыка! Была б такая ў таго Рэйгана, то Савецкі Саюз хіба існаваў бы і зараз. Ну а ўся Усходняя Еўропа, якая зараз з'яўляецца часткай Еўрасаюза, напэўна была б адной з састаўных частак СССР... Ну а еўрапейскія хлопцы з поглядамі „рэальнай палітыкі" былі б хіба камуністычнымі чыноўнікамі, рабілі б камуністычную „рэальную палітыку" і гаварылі б пра нас, апазіцыю, тое ж самае, што і зараз. Што мы маргіналы, што не здольныя...

Я памятаю тыя часы. Вельмі цяжкія былі яны для людзей сумлення. Можа цяжэйшыя чым зараз. Але тады, акружаны з усіх бакоў спецслужбамі савецкі дысідэнт адчуваў сябе маральна лепш, чым сённяшні беларускі апазіцыянер. Ён ведаў, што недзе там у свабодным свеце ёсць яго аднадумцы, якія яго ніколі не прададуць. Хаця б маральна... Ён ведаў, што ўсе людзі на зямлі, якія разумеюць значэнне слова „справядлівасць", ставяць яго вышэй слоў „рэальная палітыка"...

Прысуд Вадзіму Саранчукову гучыць адначасова з крыкам Паўла Севярынца ў сацсетках, які піша, што на нейкай сустрэчы еўрапейскіх палітыкаў нават не разглядалася пытанне па затрыманых... Просіць, каб усе, у каго ёсць выхады на еўрапейскую палітычную эліту, нагадалі ім...

А ў суседніх пакоях выносяць прысуды пакарання адміністрацыйнымі арыштамі пенсіянеру з групай калецтва, сардэчніку Мікалаю Саляніку і маладому хлопцу Антону Вайцехаву. Ці адчуваюць прыхільнікі „рэальнай палітыкі" што гэта робіцца і з іх згоды? З іх маўклівай, а ўжо і не маўклівай згоды?

Але ж і людзей, якія ведаюць значэння слоў „сумленне" і „справядлівасць", на свеце таксама многа. І ў еўрапейскай палітыцы таксама. І час сказаць ім сваё слова ўжо даўно наспеў.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Геній падляшскіх абарыгенаў



Па маім сельскім доме, калі я яго пакідаю самому сабе, вельмі сумую; радуюся ўсім сэрцам, калі вяртаюся ў яго мікрасвет і ваколіцы: да яго кафляных печаў і фатаграфій сваіх продкаў у простых рамках; да садовых дарожак, якія асабіста пратаптаў я сярод дэкаратыўных дрэў; і нарэшце, да самых шчаслівых момантаў дзяцінства, якія паказваюцца ў калейдаскопе маляўнічых напамінаў. Нават тужу па сваіх суседзях — калі я ад іх... далёка. І гэтая туга шчырая і светлая. У буйным плане, на жаль, паказваюцца імгненна крупчастыя плямы неадназначнасці: іхнія суседскія дакучлівасці, перадаваныя з пакалення ў пакаленне, з маці на сына, з дзеда на ўнука; іх культурныя неўрозы і нервы. Яны з'яўляюцца архетыпным субстратам, таму цяжка іх вызначыць. І тым больш цяжка, што практычна ўсе яго крыніцы за перыяд існавання аднаго пакалення глыбока дэкампанаваліся. Пачынаючы з «прасторы» калісьці ўпісанай у фізічны, пазнавальны кругагляд — сёння яго раскладае абстрактны аспект электроннай перадачы — незалежна ад таго, ці праз тэлевізар, ці праз інтэрнэт. А канчаючы канцэпцыяй «чужога»... Даўней гэта быў кожны чалавек з-па-за вядомага гарызонту. Сёння гэта можа быць уласны сын, які працуе ў горадзе на працягу многіх дзесяцігоддзяў.

У большасці вёсак на Падляшшы засталіся тыя, хто найменш мабільны і цікаўны да іншага свету. Гэта зусім не абазначае, што дурнейшы ці горшы. Я кажу тут пра падляшскіх «абарыгенаў», якія па розных прычынах не выкараніліся ментальна са свайго культурнага поля. Яны за любую цану хочуць захаваць свой бяспечны, але інбрэдны, зачынены, таму і пашкоджаны свет. Свет, у якім важнай падзеяй не з'яўляецца землятрус на Гаіці або вайна ў Данбасе — гэта занадта абстрактны вопыт! — але «дрэнны» позірк суседа. Дарэчы, цяпер досыць, каб не сказаць яму на працягу некалькіх гадоў «добры дзень». Мае гэта сілу «падзеі», паралельнай з глабальным катаклізмам. Такое непрадказальнае вымярэнне дае ёй клаўстрафобная культурнасць падляшскай вёскі. Прападаючай вёскі... Такой вёскі, цяжкай для суіснавання «чужога» і «свайго». «Чужога», які прыносіць новыя культурныя ўзоры і «свайго», які ў прынцыпе неахвотна сутыкае іх са сваімі ўласнымі. Неахвотна, але не варожа. З гэтага пункту гледжання сустрэча з чужым з'яўляецца таксама своеасаблівым „здарэннем", а гэтыя — з пункту гледжання «абарыгенскай» культуры — заўсёды маюць архетыпныя якасці. Яны паказваюцца ў паўтаральных ва ўсіх герметычных супольнасцях абмежавальна пасіўных паводзінах. Не адкрыта варожых. Замест адкрыта агрэсіўнай паставы пераважае, напрыклад, невітанне аднаго з адным, пазбяганне прамога кантакту, а ў больш актыўнай форме, ліхаслоўе па-за вачыма або наладжванне саюзаў з меркаванымі прыхільнікамі. Тыя, аднак, могуць неўзабаве стаць антаганістамі, у выніку суседскага разбору і шматгранай памяці пакаленных спрэчак. Гэтая нетрывалась суседскіх саюзаў і зменлівасць чалавечых эмоцый у клаўстрафобнай прасторы вёскі распрацавала геніяльны механізм. Ён паказвае натуральную адлегласць да кожнай «падзеі» — якая б яна не была. Сама «падзея», хаця індывідуалізаваная, аднак, мае пэўныя рысы агульныя. Як сказала мне аднойчы мая старэнькая суседка: «Людзі спрачаліся, спрачаюцца і спрачацца будуць... А жыць трэба».

Калі наша планета сціснулася цяпер да памеру глабальнай вёскі, варта падняць геній падляшскіх «абарыгенаў». Мы спрачаліся і будзем спрачацца — мусульманін з хрысціянінам, расіянін з палякам, немец з французам... А жыць жа ўсім трэба.

**Міраслаў ГРЫКА**



## Сваімі вачыма

# Жывое золата — вада!

У апошнім тыдні прыйшлося мне крыху падарожнічаць па родных мясцовасцях. З-за акна аўтобуса ўглядаўся я на падляшскую раўніну, якая рыхтавалася да веснавога прабуджэння. І нечага мне крыху не хапала ў гэтым краявідзе. Проста, не было відавочных веснавых, вадзяных разліваў на нашых лугах і палях. Толькі над самой ракой Нарвай можна было палюбавацца вадзяным люстрам, у якім адбіваліся сонейка і плывучыя па небе хмаркі, ды пачуць птушыныя крыкі, што пераліваліся над залітай далінай. Заўсёды, калі званю бацькам пасля зімы, то пытаюся ці разліла Глобучка — так называюцца сенажаці за нашай вёскай. Нязменна чую ў адказ, што апошнімі гадамі нічога такога не здарылася. І зноў не пагляджу квітнеючых лугоў веснавога дывана ў поўнай красе з часоў дзяцінства. Нястача вады — справа настолькі сур'ёзная, што калі б не даведзены ў вёску водаправод, то летам з набіраннем яе з калодзежаў былі б праблемы. А ў вёсцы практычна няма развітых гаспадарак і сельскай жывёлагадоўлі, якія патрабуюць яе ў вялікіх аб'ёмах. Пра што тут гаварыць, калі людзі, вопытныя ў гідралагічнай справе кажуць, што неўзабаве пагражае нам засуха ў ваколіцы ўсёй Белавежскай пушчы менавіта па прычыне нізкага ўзроўню грунтавых вод. А іх пачынае катастрафічна не хапаць не толькі ў лакальных маштабах, але і ўва ўсім свеце. Нафце, газу ці другім палівам навукоўцы знойдуць заменнік, але без вады чалавек не пражыве. Нашы вочы і вушы дагэтуль, калі гаварылася пра праблему вады, накіраваныя былі ў бок афрыканскіх ці арабскіх дзяржаў. Зараз нястача вады і доступ да яе, гэта адна з тых праблем, якія генеруюць смерць і канфлікты. Тысячы дзяцей паміраe штодзённа з прычын звязаных з вадою хвароб; мільёны людзей прымушаны піць яе забруджанай. Менавіта справа доступу да вады не засталася па-за ўвагай і папы Францішка. Нейкі час таму назад Папская акадэмія навук арганізавала міжканфесійны кангрэс, прысвечаны доступу чалавецтва да пітной вады. Пантыфік нагадаў, што права да вады з'яўляецца першым і найбольш фундаментальным правам чалавека. „Прадвызначае яно права людзей на працяг жыцця і рашае аб будучыні свету", — сказаў папа. Прытым адказнае гаспадаранне вадою з'яўляецца выклікам часу. **Тое, што мяне вельмі асабіста ўразіла ў папскіх роздумах, то пастаўленае пытанне, ці нейкі з фрагментаў трываючай зараз трэцяй сусветнай вайны, не вядзецца менавіта за ваду.** Сцвердзіў ён таксама, што трэба стрымаць і змяніць сітуацыю, у якой мільёны людзей не маюць доступу да пітной вады. „Там, дзе вада, там ёсць жыццё. Але толькі тады, калі, калі вада чыстая і здаровая. Калі не будзем трымацца права на ваду, не будзем шанаваць іншых правоў", — сказаў папа ўдзельнікам кангрэса.

Ужо некалькі гадоў у розных сяброўскіх дыскусіях паўтараю, што найбольшым беларускім скарбам з'яўляюцца менавіта вадзяныя рэсурсы краіны. І гэта перш за ўсё вялікія радовішчы глыбокіх падземных крыніц вады. Менавіта гэтыя натуральныя рэсурсы з'яўляюцца рэальным і патэнцыйным скарбам біялагічнага выжывання беларусаў у перыяд кліматычнага пацяплення і доўгатэрміновых засух. Менавіта глыбокія падземныя воды гэта зарука іх чысціні і прыдатнасці для спажывання. Дастаткова глянуць, які патэнцыял маюць, напрыклад, расейскія і ўкраінскія рэкі і азёры, але менавіта ступень іх забруджанасці робіць іх непрыдатнымі для харчовага карыстання насельніцтвам. Над самім Дняпром працуе звыш пяцідзесяці магутных прадпрыемстваў, уключна з атамнымі электрастанцыямі, якія ўсе нешчысціоты адводзяць непасрэдна ў раку. У Расеі, у якой паводле навукоўцаў знаходзіцца дваццаць адсоткаў ад усіх сусветных рэсурсаў пітной вады, праблемай становіцца яе забруджанне і... недахоп яе чалавецтву ў пітным выглядзе.

Статыстычна кожны еўрапеец штодзённа скарыстоўвае прыблізна 120-150 літраў вады на душу. Запатрабаванне на пітную ваду ў бутэльках узрастае прыблізна на 20 адсоткаў штогод. Беларускія падземныя крыніцы з ваколіц Гродна, Брэста і Мінска могуць быць скарыстаны непасрэдна для разліву без вялікіх біялагічных ачыстак. Ці трапіць беларуская вада на еўрапейскі рынак? Пажывем, пабачым.

**Яўген ВАПА**

# Айцец Канстанцін Байко

## — багаслоў, настаўнік, лекар



Дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк і аўтар кнігі Дарафей Фіёнік



На вечарыну прыбылі дэкан бельскай акругі мітрафорны протаіерэй Лявонцій Тафілюк, айцец Канстанцін Бандарук (сядзіць справа), бургамістр Яраслаў Бароўскі

**Музей малой айчыны ў Студзіводах выдаў каштоўную кнігу «Айцец Канстанцін Байко — багаслоў, настаўнік, лекар». Гэта чацвёртае выданне з серыі «Гісторыя і культура падляшскіх беларусаў». Прамоцыя новага выдання, прысвечанага праваслаўнаму святару, які нарадзіўся, правёў дзяцінства і пахаваны ў Белавежы, а які важную частку свайго жыцця правёў у Бельску-Падляшскім, дзе працаваў у карысць беларускага школьніцтва, адбылася ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім. У мінулым у белліцэі былі арганізаваны вечарыны ў гонар мітрафорнага протаіерэя Канстанціна Байко, якія падштурхнулі да напісання кнігі пра свяшчэнніка, які вучыў праваслаўнай рэлігіі ў беларускім ліцэі і іншых бельскіх школах.**

— Ад нашых вучняў выйшла ініцыятыва, каб іменем айца Канстанціна Байко назваць мост на рацэ Белай, каля якога айцец Канстанцін незаконна быў арыштаваны і вывезены ў Савецкі Саюз. Нядаўна нашы вучні, настаўнікі і аўтар кнігі Дарафей Фіёнік у гадавіну арышту айца Канстанціна павесілі на мосце бел-чырвона-белы вянок. Многа працы ўклаў аўтар, каб сабраць матэрыял і напісаць кніжку пра айца Канстанціна Байко, якая паказвае жыццё святара і вялікага чалавека нашай зямлі. Дарафей Фіёнік явіцца ў нас як інстытут і выдае мінімум адну кніжку ў год, — сказаў дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк.

Дырэктар прывітаў гасцей, сярод якіх былі, між іншым, дэкан бельскай акругі мітрафорны протаіерэй Лявонцій Тафілюк, айцец Канстанцін Бандарук з Радыё Рацыя, бургамістр Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі, прадстаўнік Бельскай гміны і дырэктары бельскіх школ. Віталі таксама настаўнікаў, вучняў школы і бяльшчан, якія сутыкнуліся з айцом Канстанцінам або даведаліся пра яго з расказаў і прыйшлі на вечарыну, каб пасля яе прыдбаць кніжку пра вядомага ў Бельску святара. У пачатку вечарыны сабраныя маглі паглядзець прэзентацыю пра айца Канстанціна, якую саставіў Максім Фіёнік, старэйшы сын аўтара кнігі. Фатаграфіі і надпісы мяняліся, а публіка магла выслухаць пропаведзь айца Канстанціна Байко, якую сказаў ён у 1942 годзе ў Клецку. Канешне, захавалася яна ў папяровым выглядзе, а зачытаў яе на беларускай мове айцец Канстанцін Бандарук. Дырэктар белліцэя Андрэй Сцепанюк запрасіў да размовы Дарафея Фіёніка, які, адказваючы на пытанні дырэктара, распавёў пра айца Канстанціна Байко і сваё навейшае выданне.

— Можна сказаць, што кнігу напісаў сам айцец Канстанцін, які сабраў пра сябе вельмі багаты архіўны матэрыял. Нават лісты, якія атрымліваў, захоўваў разам з канвертамі і таму дакладна вядома ад каго і калі іх атрымаў. Матэрыялы да кніжкі я збіраў таксама ў архіве ў Мінску. Найбольш склалада было здабыць інфармацыю з пабыўкі айца Канстанціна ў ссылцы ў Варкуце. Айцец Канстанцін Байко, побач Яраслава Касцыцэвіча і іншых знатных асоб, быў стваральнікам беларускага школьніцтва ў Бельску-Падляшскім, дзе навучаў Закону Божаму ва ўсіх школах. Вядома, што праваслаўнай рэлігіі вучыў па-беларуску. Здабыў жа ён адукацыю ў Віленскай духоўнай семінарыі, якая знаходзілася ў тым самым комплексе будынкаў, што і Віленская беларуская гімназія ды Таварыства беларускай школы. Частка выкладчыкаў навучала ў згаданых адукацыйных установах, дзе частка заняткаў адбывалася на беларускай мове. Школьныя сябры, з якімі айцец Канстанцін трымаў кантакт, а некаторыя з якіх сталі нават епіскапамі, таксама атрымлівалі праваслаўную адукацыю па-беларуску, — гаварыў аўтар кнігі Дарафей Фіёнік. — Беспадстаўны арышт айца Канстанціна, які заставаўся верным тадышняму мітрапаліту варшаўскаму Дыянісію, учыніў яго жыццё трагічным. Але айцец Канстанцін не здаўся падчас ссылкі ў Варкуце і пазней. Прабачыў ён правіны сваім праследавацелям, жыў з малітвай і спадзяваннем на Божую волю.

У вялікім школьным калідоры, дзе праходзіла вечарына, працавала выстава Студзівоцкага музея, прысвечаная жыццю і дзейнасці айца Канстанціна Байко, якую ў галоўным саставіў прысутны на сустрэчы Тамаш Суліма. Інфармацыя і фатаграфіі з выставы замешчаны ў кнізе «Айцец Канстанцін Байко — багаслоў, настаўнік, лекар», якую Дарафей Фіёнік напісаў перш за ўсё на падставе асабістага архіва айца Канстанціна, архіўных дакументаў і ўспамінаў. Кніга багата ілюстравана здымкамі і дакументамі. У выданні пра свяшчэнніка, ураджэнца Белавежы, перш за ўсё на беларускай мове, але таксама на польскай і расійскай мовах, апісаны паасобныя перыяды яго жыцця, а таксама змешчаны яго пропаведзі на беларускай і расійскай мовах. Раней айцец Канстанцін служыў на Холмшчыне і ў Заходняй Беларусі, а ў пасляваенны час уклаў многа працы ў карысць беларускага школьніцтва ў Бельску-Падляшскім і духовага росту яго жыхароў. Пабываў я ў мінулым на дзвюх вечарынах, арганізаваных Бельскім белліцэем у супрацоўніцтве з Беларускім гістарычным таварыствам і Студзіводскім музеем у гонар мітрафорнага протаіерэя Канстанціна Байко. Матэрыялы пра святара друкаваліся ў перыядычных выданнях «Бельскі гостінэць» і «Białoruskie Zeszyty Historyczne / Беларускі гістарычны зборнік».

— Усюды, дзе айцец Канстанцін быў, нават коратка, пакідаў трывалы след у людскіх сэрцах і душах. Вельмі любіў ён людзей, ахвяроўваў ім цэлага сябе, дзяліўся ўсім, што меў і патрапіў. Яго біяграфіі хапіла б да надзялення многіх людзей. Жыццё айца Канстанціна паказвае нам, як важным з'яўляецца, нягледзячы на ўмовы, захаванне годнасці і людскай уражлівасці. Таму таксама памяць аб ім перетрывала дзесяцігоддзі, — напісаў у сваёй кніжцы Дарафей Фіёнік, звяртаючы ўвагу, што вроцлаўскі і шчэцінскі архіепіскап Іерэмія распавядае пра айца Канстанціна ў сваіх пропаведзях і падчас сустрэч, паколькі святар з Белавежы доўга служыў у гэтай епархіі, дзе яго памяць таксама ўшанавана.

— Айцец Канстанцін Байко — прадстаўнік старой, праваслаўнай сям'і з Белавежы, якой род сягае XV стагоддзя... Жыццё айца Канстанціна Байко можна, без сумнення, назваць жыццём спаведніка, пакутніка за веру. Адвагу спавядання веры выказваў ужо ў час штудыяў у Варшаве. Як духоўная асоба імпанаваў адвагай, глыбокімі тэалагічнымі ведамі, здольнасцямі бескампраміснага сведчання аб сваёй веры. Належаў да асяроддзя вучняў мітрапаліта Дыянісія, якія засталіся вернымі свайму духоўнаму айцу ў найбольш складаны час, — напісаў архіепіскап Іерэмія ў нававыдадзенай кніжцы.

Канстанцін Байко нарадзіўся ў Белавежы-Заставе ў 1909 годзе і там праходзіла яго дзяцінства. Перарвала яго Першая сусветная вайна і бежанства. Малады хлопец трапіў у Разанскую губерню. Пазней вучыўся ў Праваслаўнай духоўнай семінарыі ў Вільні і прымаў там удзел у лекцыях у Медыцынскім інстытуце. Атрымаў званне магістра тэалогіі ў Аддзяленні праваслаўнай тэалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. Служыў у прыходах у Польшчы. Падчас Другой сусветнай вайны айцец Канстанцін хаваў, між іншым, яўрэяў і цыганоў, якім пагражала смерць. У жніўні 1944 года быў ён назначаны настаўнікам праваслаўнай рэлігіі ў арганізаваных у Бельску-Падляшскім школах. Калі многія святары з Бельска падпарадкаваліся тады юрысдыкцыі Расійскай праваслаўнай царквы, айцец Канстанцін застаўся верным мітрапаліту Дыянісію і Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царкве. У сакавіку 1946 года быў ён патаемна затрыманы савецкімі вайскоўцамі каля моста на рэчцы Белай у Бельску-Падляшскім, патаемна вывезены ў аддзяленне НКУС у Гродне, а пасля перавезены ў турму ў Мінску і затым у Баранавічы. Там айца Канстанціна дапытвалі як грамадзяніна Савецкага Саюза. Быў ён прысуджаны на цяжкія працы ў ссылцы, якія адбываў праз 10 гадоў у Варкуце. Вярнуўшыся восенню 1956 года на Беласточчыну, айцец Канстанцін Байко з радасцю ўспрыняў адраджэнне тут беларускай культуры, чытаў «Ніву», у 1958 годзе прыняў удзел у другім з'ездзе БГКТ і трымаў кантакт з беларускімі дзеячамі, перш за ўсё з Яраславам Касцыцэвічам. Настаяцель Мікалаеўскага прыхода ў Гайнаўцы айцец Антоній Дзевятоўскі ў кастрычніку 1956 года напісаў айцу Канстанціну Байко ліст з запрашэннем у Гайнаўку. З 1957 года айцец Канстанцін стаў ізноў вучыць Закону Божаму ў бельскіх школах, дзе ў многіх адукацыйных установах выкладалася беларуская мова. Айцец Канстанцін вучыў праваслаўнай рэлігіі ў школах Бельска да студзеня 1961 года, калі такое навучанне было канчаткова забаронена. Прадаўжаў ён сяброўства, яшчэ з Віленскай духоўнай семінарыі, з айцом Уладзімірам Дарашкевічам, які ў 1958 годзе прыняў манаскі пострыг і стаў бельскім епіскапам Васіліем, вікарным епіскапам мітрапаліта Макарыя, а праз нейкі час мітрапалітам варшаўскім і ўсяе Польшчы. У кніжцы Дарафей Фіёнік змясціў (на старонках 107-112) патрыятычны тэкст епіскапа Васілія «Хто ты? Мой родны кут, як ты мне мілы», напісаны ў беларускім духу і надрукаваны ў «Праваслаўным календары на 1961 год». Уладыка Васілій прыязджаў тады ў Бельск і ў навакольныя прыходы ды напісаў гэты тэкст уражаны развіццём беларускай культуры і беларускай асветы ў Бельску-Падляшскім. Айцец Канстанцін вучыў яшчэ Закону Божаму пры Уваскрэсенскай царкве ў Бельску, а са студзеня 1964 года пераехаў служыць у Вроцлаў, да епіскапа вроцлаўскага і шчэцінскага Васілія (Дарашкевіча) і ў гэтай епархіі быў настаяцелем праваслаўнага прыхода ў Старгардзе-Шчэцінскім. Аўтар кніжкі інфармуе, што айцец Канстанцін быў добра адукаваным святаром таксама па свецкіх прадметах. Ведаў ён беларускую, польскую, старажытнацаркоўнаславянскую і расійскую мовы, валодаў румынскай, французскай, нямецкай і англійскай мовамі, а ў школе навучаў таксама класічнай грэчаскай і лацінскай мовам. Дырэктар Андрэй Сцепанюк падзякаваў настаўніцы праваслаўнай рэлігіі Еве Астапковіч за арганізацыю вечарыны, прысвечанай прамоцыі кніжкі і папярэдніх вечарын у гонар айца Канстанціна Байко. Перад сабранымі выступілі асобы, якія ведалі айца Канстанціна Байко.

— Я спачатку размаўляў з айцом Канстанцінам у Гайнаўцы, дзе я служыў у прыходзе. Перад яго смерцю я гаварыў з айцом Канстанцінам, прымаў ад яго споведзі, прычашчаў яго і быў на яго пахаванні ў Белавежы, дзе на могілках пакоіцца яго мошчы. Айцец Канстанцін захоўваў любоў да свайго народа, сваю мову і веру. Не чужая была яму белавежская гутарка, а беларуская мова была яму роднай. Мы таксама павінны захоўваць сваю нацыянальную мову і наша праваслаўе. Няхай айцец Канстанцін будзе станоўчым прыкладам для нашай моладзі і старэйшага насельніцтва ў гэтым плане, — сказаў айцец Лявонцій Тафілюк.

Айца Канстанціна Байко ўспаміналі таксама іншыя асобы як падчас вечарыны, так і пасля яе завяршэння, за кавай, гарбатай і салодкім пачастункам. У канцы сустрэчы перад публікай з песнямі выступілі белліцэісты — Магда Маліш, Міхал Зіноўчык і дзяўчаты з калектыву «Спадчына», якімі апякуецца настаўніца Іаанна Хількевіч. Дарафей Фіёнік рассакрэціў, што яшчэ ў гэтым годзе плануе выдаць кніжку пра іншага арганізатара беларускага школьніцтва ў Бельску Яраслава Касцыцэвіча.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

## Юбілей Польскага радыё

У мінулым годзе Польскае радыё адзначала 90-гадовы юбілей. 18 красавіка 1926 года ў 17 гадзін упершыню паплылі ў эфір славутыя словы: «Halo, halo, tu Polskie Radio Warszawa». Гэтым самым пачала свае трансляцыі Першая праграма Польскага радыё. Радыёслухачы ад пачатку існавання Польскага радыё з натхненнем слухалі радыёперадачы. Некаторыя хвалілі, давалі падтрымку, іншыя тэлефанавалі або пісалі і прасілі дапамогі, калі нешта крытычнага прыкмячалі ў сваім жыцці. Ліст такі канчаўся сказам: «Я прашу зачытаць тое, што скажу». Першым на лісты радыёслухачоў адказваў Станіслаў Адынец 24 студзеня 1926 года ў радыёперадачы «Скрынка адказаў».

Вялікую папулярнасць заваявала «Хваля-56», якая заступіла прапагандысцкую «Хвалю-49». У 1957 годзе паступала да яе 140 тысяч лістоў. Памятаю, што перадача пачыналася словамі: «Увага, увага! Гаворыць Хваля-56»... І я некалькі разоў пасылаў лісты па адрасе Warszawa, Poczta Główna, «Fala 56». Сапраўдную папулярнасць заваявала аднак «Radiowa Lista Przebojów», якой перадачы бяруць пачатак з 1968 года. Перадача штомесяц знаходзіла апору ў плебісцыце слухачоў, якія выбіралі свой гіт. Як успамінае Мар'я Шаблоўская, штомесяц на радыё паступалі дзясяткі тысяч лістоў. І трэба было ўсіх іх пералічыць. Займала гэта шмат часу. Я любіў музычную перадачу «Музычныя вандроўкі па краі». Перадача выходзіла ў эфір па суботах у 19 гадзін.

І вось што прыгадалася яшчэ мне з таго часу. Было гэта на пачатку шасцідзесятых гадоў. Стаяла цудоўнае летняе надвор'е. Сонейка падавалася на захад. Я з братухай слухаў пры адкрытым акне «Музычныя вандроўкі па краі». Памятаю, што перадавалі песню «Толькі рэха», здаецца, у выкананні Барбары Мушынскай. Нечакана з-за лесу высунулася невялічкая хмарка, якую вокамгненна пранізала маланка. І грымнуў агульнавядомы гром з яснага неба. Сыпнуў дождж, сапраўдны лівень, але кароткачасовы. Калі выйшлі на панадворак, якраз побач хаты вуліцаю праязджаў на фуры Аляксей Місіюк. «Ідзіце забраць сяброўку. Гром на полі забіў...» — з сумам кінуў у наш бок. Шпарка рушылі мы на вёску. Сказанае Місіюком аказалася праўдай. На ўрочышчы «Ракітнае», на полі пад лесам ад маланкі загінула пастушка Оля. Была вучаніцай беластоцкага швейнага тэхнікума і адзінай дачушкай — апрача двух старэйшых братоў — у сям'і Аляксея і Вольгі Саўчукоў. Гэтая падзея па сённяшні дзень захоўваецца ў памяці аднавяскоўцаў.

А калі справа тычыцца Польскага радыё, дык я ў маладосці трымаў кантакт з варшаўскім радыёвяшчаннем. Амаль пяць гадоў быў анкецёрам. Прысылалі мне анкеты і я праводзіў апытанні з радыёслухачамі ў сваім асяроддзі. А зараз рэдка прыходзіцца слухаць перадачы. Вольны час займаюць мне камп'ютар і тэлевізар. Так пэўна і застанецца да апошніх маіх дзён.

**Уладзімір СІДАРУК**




# Бельск люблю і ненавіджу!

**— Што значыць для мяне ідэальная айчына? Ідэальная айчына гэта мара і я напісаў верш пад такім загалоўкам. Мая айчына гэта беларускасць. Я хацеў бы ў жыцці хоць праз некалькі дзён пажыць у такой айчыне, дзе выйдзеш на вуліцу і там пачуеш беларускае слова. Я фанат беларускага слова. Ёсць адна беларуская літаратурная мова і я ёй захоплены, — сказаў Андрэй Сцепанюк, аўтар знакамітага тома «Распісаны квадрат», выдадзенага Праграмнай радай тыднёвіка «Ніва» напрыканцы 2016 года. На сустрэчу з паэтам, што адбылася ў вілею 25 Сакавіка, паклікала АБ-БА, каб пагаварыць пра паэзію і айчыну. Вечарына пачалася з музычнай прэзентацыі гурта «Баламуты», дзе надта кранальна прагучала песня «Айчына» на словы верша паэта (і музыку Альжбеты Бэзюк). Гутарку павёў журналіст Мікола Ваўранюк, які з героем вечарыны знаёмы са студэнцкіх часоў.**

Фота Ганны КАНДРАЦЮК



**Андрэй Сцепанюк (справа)** нарадзіўся (1963) і жыве ў Бельску-Падляшскім. Выпускнік беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. Працаваў выхавацелем, настаўнікам і бургамістрам. Цяпер дырэктар ІІ Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім. Друкаваўся ў студэнцкіх «Сустрэчах», «Ніве», альманахах Літаб'яднання «Белавежа», штогодніку «Тэрмапілы», зборніках «Мае песні Табе дару» і «Diabelskie spotkania z poezją». Намінаваны да прэміі Залаты апостраф за публікацыю вершаў у менскім часопісе «Дзеяслоў» у 2015 годзе. У 2016 годзе Праграмная рада тыднёвіка «Ніва» выдала зборнік «Распісаны квадрат».

**Мікола Ваўранюк:** — Памятаю Андрэя Сцепанюка з таго часу, калі ён рэдка хадзіў у пінжаку, толькі ў чорным світары. Андрэй быў студэнтам беларускай філалогіі. Памятаю, што вялікае ўражанне, а тады звярталіся пераважна да мастацкай літаратуры, выклікала ягоная падборка вершаў у студэнцкім часопісе «Сустрэчы». І думаю, што не толькі мяне аднаго вершы Андрэя ўразілі. Валянцін Сельвясюк, які рабіў паэтычную падборку, назваў цябе «паэтычным хуліганам». Вершы мелі такую своеасаблівую рытміку, нават танца, здаецца вальса. Гэта памятаў і Яўген Вапа, рэдактар зборніка, і добра сталася, што ён намовіў Цябе вярнуцца да літаратуры і выйсці з паэтычнай творчасцю да людзей.

**Андрэй Сцепанюк:** — Мне, страшэнна цяжка гаварыць пра свае вершы, Я не скрываю, што верш, які так цудоўна быў сёння праспяваны (Марысяй Пякарскай — Г. К.) паўстаў трыццаць гадоў таму якраз пад сотую гадавіну з дня нараджэння Алеся Гаруна. Я заўсёды паўтараю, што мае вершы ўзніклі з маёй ляноты. Валік Сельвясюк, які падрыхтаваў нізку маіх вершаў у «Сустрэчы», спачатку загадаў, каб я напісаў нейкі артыкул на тэму Алеся Гаруна. Але тыя, якія мяне не ведаюць з Варшавы, ведаюць, што я меў многа рознага тыпу занняткаў... У пэўны момант я дайшоў да вываду, што я вельмі лянівы. Добра сказаць: сядзь і напішы артыкул! Сеў раз, другі, трэці, а за чацвёртым разам здаўся... і напісаў верш. Занёс яго Валіку і ён сказаў: «Супер!». З таго пачалося такое маё званне паэта аднаго верша. Калі выйшаў зборнік, а ён паўставаў цягам мінулага года, я думаў, ці гэты верш павінен быць змешчаны ў кніжцы. Бо ён стары, яго ведаюць тыя, якія тады былі студэнтамі. І верш у нейкі спосаб ажыў нанова. Мне вельмі прыемна, што чытаюць яго маладыя людзі, а яшчэ больш прыемна, калі адна маладая настаўніца прыйшла і сказала, што дзякуючы гэтаму зборніку яна даведалася, хто аўтар песні, якую яна спявала пры вогнішчы на студэнцкіх рэйдах. Хачу аднак сказаць, што ад пэўнага часу я пішу іншыя вершы, яны не так патрыятычныя і вострыя, як тыя са студэнцкіх часоў.

**Мікола Ваўранюк:** — Наколькі памятаю, лянота не першы раз сыграла такую ролю ў Тваім жыцці. Здаецца Твой верш надрукаваны ў «Парнасіку» таксама з ляноты?

**Андрэй Сцепанюк:** — Настаўніца беларускай мовы пані Вера Рышчук, якую я пасля заступіў у сваім ліцэі, загадала напісаць нешта пра вёску. А як ведаеце, я нарадзіўся ў вялікім горадзе Бельск-Падляшскі. Вазьмі і напішы! Дык сеў і напісаў некалькі рыфмаваных зваротак. Настаўніца была здзіўлена і сказала: «Высылай у „Ніву"». Але я баюся далей цягнуць гэту тэму... бо выйдзе, што я самы лянівы чалавек.

**Мікола Ваўранюк:** — Мы так лёгка гаворым пра гэту ляноту, але я ведаю, што ў жыцці Ты не толькі пісаў вершы. Прыйшлося Табе займацца не толькі педагагічнымі, але і адміністрацыйнымі справамі. Я тут хацеў бы вярнуцца да тэмы паэзіі і айчыны. Здаецца, Ты хацеў вярнуцца ў Бельск. Для тых, што не ведаюць, паясняю, што Андрэй Сцепанюк восем гадоў быў бельскім бургамістрам.

**Андрэй Сцепанюк:** — Калісь наш вялікі Сакрат Яновіч сказаў, што мы павінны быць палітыкамі, пісьменнікамі, грамадскімі дзеячамі. Таму, што нас мала. А да палітыкі мы ішлі толькі і выключна для беларускай справы. Калі б не было прымусу, мы б не займаліся палітыкай. Я патрапіў на добры перыяд. У 1989 годзе Беларусі выбарчы камітэт прыступіў да выбараў. Мы расклейвалі па горадзе бел-чырвона-белыя плакаты з надпісам: *Пра свае справы будзем гаварыць самі!* І самае цікавае, нас не было многа. Тыя, што пасля ў 90-х гадах сталі беларусамі, яшчэ думалі: ці ім застацца ў партыі ці шукаць іншай дарогі. Мы даспявалі вокамгненна. Ужо ў 1994 годзе, калі пайшлі на выбары, мы ведалі, што зможам выйграць з іншымі групоўкамі ў горадзе.

Калі гаварыць шчыра, я баяўся ісці на пасаду бургамістра. Не ведаў, ці чалавек, які некалькі гадоў працаваў настаўнікам, гэта адпаведны кандыдат на мэра горада. Потым выконваў абавязкі бургамістра восем гадоў. Ці гэта быў для мяне добры час? Скажу так — гэта быў вельмі кепскі час для паэзіі. Праз восем гадоў я не напісаў ні аднаго верша.

**Мікола Ваўранюк:** — А мне здаецца, што ў працы бургамістра і ў Тваёй паэзіі перамог Бельск. У кніжцы ён для Цябе вельмі важны.

**Андрэй Сцепанюк**: — Я баюся гаварыць пра Бельск і ўсе ведаюць чаму.... Бо пра Бельск напісала Надзея Артымовіч і ніхто ўжо так не напіша.Такога немагчыма параўноўваць. Адзін верш Надзі пра «Бельск, ікону. Лістападавы снег» гаворыць усё. Але Бельск для мяне важны. У ім я нарадзіўся і правёў амаль усё жыццё. Гэта горад, які я магу захапляцца і якога я ненавіджу. Бо вельмі многа не падабаецца мне ў гэтым горадзе...

**Мікола Ваўранюк:** — Меў час тое, што не падабаецца, направіць! (*у адказ гучны смех на зале — Г. К.*).

**Андрэй Сцепанюк:** — Меў час і я да канца не задаволены тым, што тады зрабіў. Я сам да канца не ведаў як і з кім зрабіць лакальную палітыку. Я адчуваю горад цераз людзей. Не таму, што ў цэнтры стаіць ратуша. Чаго не люблю? Хоць бы такога, што каля майго дома знаходзіцца начны магазін, і там усю ноч спяваюць так званыя нашы беларуска-ўкраінска-рускія песні. Мне не падабаецца, што яны ведаюць толькі адну страфу песні... Але Бельск ува мне. Калі гаворым пра Айчыну, мы гаворым пра нешта ўзнёслае. Я гавару пра сваю малую айчыну, бо яе найлепш адчуваем. І кожны з нас стараецца яе змяніць.

**Мікола Ваўранюк:** — Мне некаторыя вобразы з Тваіх вершаў, як гэтая дарога, дзе спатыкаеш бабульку, якая кажа, што ў рай на аўтобусе не заедзеш, застрагла ў памяці...

**Адндрэй Сцепанюк:** — Там пра Кленікі, дзе езджу на магілкі. Там ляжыць мой сябра з ліцэя, Сярожа, якія трагічна загінуў 18 гадоў таму. У маёй памяці ён малады. У Кленіках магілка маёй бабулі, бо мае бацькі родам з Істока, што каля Кленік. Пасля смерці бацькі, якога я страціў у 13 гадоў, я рэдка там бываю. Кожнае вяртанне для мяне надта балючае. У кніжцы ёсць такі здымак, які «затапілі» Юрка Асеннік і Павел Грэсь. Я сам усвядоміў, што гэта адзіны здымак, дзе наша сям'я разам. Я напісаў пра жанчын, якіх ведаў, пры якіх гадаваўся. Гэта мой паклон у іх бок, удзячнасць, пашана. Верш пра маці выношваў я ў сабе некалькі гадоў.

Кніжка «Распісаны квадрат» натхнёная «Бязмежжам», на якое запрасіў мяне Яўген Вапа. Я мог чытаць свае вершы перад знакамітай аўдыторыяй, перад паэтамі, пісьменнікамі. Пасля мае вершы надрукавалі ў «Дзеяслове», у самым важным беларускім літаратурным часопісе і я быў прыкмечаны. Атрымаў нават вылучэнне да літаратурнай прэміі «Залаты апостраф».

З сучасных аўтараў чытаю Барыса Пятровіча, Міхася Андрасюка, Алеся Разанава. Вяртаюся да Эдварда Стахуры, які сам як чалавек быў паэзіяй. Але ёсць аўтары, якія мне не ляжаць. Ну, але я ў такім узросце, што сам выбіраю і чытаю тое, што хачу.

**Запісала: Ганна КАНДРАЦЮК**

# Валакальная каша

Разам з дырэктар Дома культуры ў Крынках Альжбетай Чарэмхай адправіліся мы на чарговую сустрэчу са старажыламі. Мэта — запісаць успаміны ад велікоднага валокання. Жанчына здаўна чакала спадарыню дырэктар са сваімі гісторыямі, старымі здымкамі. На наш візіт бабулю падрыхтаваў дарослы ўжо ўнук. Ён таксама меў выступіць у нашым валакальным фільме. І тут нечаканы сюрпрыз. Бабуля чамусьці адмаўляецца выступіць перад камерай. Ніхто не чакаў такога ходу спраў. Альжбета стараецца пераканаць жанчыну, але ўнук запыняе гэтыя намаганні.

— Не хоча, значыць, не трэба, — гаворыць рашуча.

Па гэтай менавіта прычыне наша гераіня застанецца ананімнай. Яна сталага ўзросту. У верасні будзе адзначаць 80-годдзе з дня нараджэння. Ад дзядоў-прадзедаў — крынчанка. Даволі аб'ёмістая. Валасы белыя, коратка падстрыжаныя, штучна кучаравыя. Жыве на тэрыторыі былога гета, на вуліцы, дзе ўсе жыхары носяць аднолькавае прозвішча. Жанчына не ў змозе растлумачыць чаму менавіта так. Распавядае пра мянушкі, якімі адрозніваліся паасобныя гаспадары. Сядзім у вялікім, гасцінным пакоі. Гледзячы на колькасць сталоў, крэсел і канап можна здагадацца, што на святы сыходзіцца тут шмат людзей. На галоўнай сцяне — выява засяроджанага на малітве папы Яна Паўла ІІ. На буфеце — копія здымка бацькоў адной з каталіцкіх святых.

Жанчына гаворыць на прыгожай, чыстай польскай мове. У асноўным расказвае пра школьныя гады, гарадскую кар'еру эканамісткі, поспехі на працы. Пра дзяцінства, у тым ліку велікодныя традыцыі гаварыць ёй чамусьці складана.

— Бацьку ў 1939 годзе забралі на вайну, з якой ужо не вярнуўся. Было мне тады два годзікі, а брацiку толькі паўгода. Мама зараз пасля вайны хадзіла на заробкі да гаспадароў, — пачынае жанчына. — Збірала бульбу, растрасала гной, жала збожжа. Пасля працы бегла на курсы для непісьменных. Стомленая працай, засынала за партай.

Брат субяседніцы быў калісь царкоўным старастам. Выгадаваў сына — бацюшку. Частка сям'і жыве ў Бераставіцы. Загналі іх туды польскія партызаны. Уначы прыходзілі, пагражалі, што хату спаляць.

— Адны туды, другія сюды перааязджалі, — нясмела тлумачыць паводзіны выклятых жаўнераў.

Паказвае старыя сямейныя здымкі, дасланыя берастаўіцкімі сваякамі. Калі зробіць адбіткі, адашле іх назад. Просіць падаць акуляры. Спадарыня Эля распазнае адзін са здымкаў — аднолькавы даслала ёй цётка з Аргенціны. Некалькі крынскіх даволі маладых гарбароў пазіруе ў працоўнай вопратцы. Ззаду польскі надпіс «Паментка гарбарска 1933. Място Крынкі, уліца Наджэчна 9». Паміж імі вусаты дзед-прадзед спадарыні Элі і настарэйшы брат бацькі нашай субяседніцы.

На другім здымку таксама па-польску: «Варшава, цытадэля, 1934». За доўгім, застаўленым ежай сталом сядзяць польскія жаўнеры, а ў іх ліку супольны продак жанчын.

— Аказваецца, — гаворыць Эля, — мы з вамі па некалькіх лініях сям'я.

Ёсць таксама здымак цёткі Вольгі на работах у Нямеччыне, нейкая сям'я ў вопратцы з часоў Першай сусветнай вайны, пасляваеннае вяселле ў Крынках.

— Дык што ж з гэтымі валакальнікамі, — прабуем вярнуцца да асноўнай тэмы нашай сустрэчы.

— Хлопцы найчасцей вучыліся песень у нашай хаце. Жылі мы тады там, дзе цяпер стаяць гарбарскія блокі. Мой брат гэтым займаўся. Няма ўжо ні брата, ані ніводнага з яго валакальнікаў. Канапельку і «Ходзіць пава па вуланьцы» спявалі.

— Заспявайце нам, калі ласка, — просім жанчыну.

Смяецца, адмаўляецца.

— Я іх гнала з хаты, — тлумачыць.

— Вельмі любілі мяне страшыць. Пачакаюць, калі мама з хаты пойдзе, прынясуць дыню са свечкай усярэдзіне і выразанымі вачамі. А яшчэ прасціну на галаву накідалі.

Жанчына дыктуе нам словы адной з валакальных, аўтарскіх песень хлопцаў.

— Гэта па беларус..., значыць, па-просту, — папраўляецца жанчына.

*Вэсолы дзень дзісь нам настаў.*
*Бацько з ямы бульвы дастаў,*
*Маці кашы наварыла, ложку сала ўлажыла.*
*Дзеці ядзяць, хваляць смачна,*
*Дальбуг, смачна.*

— Ведаю толькі, што калі нехта не хацеў прыняць валакальнікаў, тады гаварылі: «У гэтай хаці няма чаго даці, ні аўса паўкаша, жытка паўкарытка...», а што далей — забылася, — кажа.

Жанчына быццам пра кашу з салам гаворыць нам пра бубен, з якім хадзілі валакальнікі.

— Уласнаручна яго рабілі са знойдзеных на жыдоўскім могільніку скураных кніжак. Ведаеце, мяне гэта валоканне не вельмі цікавіла, лепш вам раскажу пра пазнейшыя часы, пра адукацыю, пра сваю працу...

**Іаанна ЧАБАН**

# Ліквідавалі апошні тэлефонны апарат

Не так даўно перад будынкам Гміннай управы быў устаноўлены тэлефонны апарат у напалову адкрытай будцы. Людзі ўзрадаваліся, нават з недаверам успрымалі такую раскошу і адразу сталі падазраваць, што неўзабаве гэтае навуявдзенне нехта знішчыць. Але прыбор стаяў і ніхто яго не псаваў. Людзі карысталіся ім даволі часта — тады яшчэ мала хто меў мабільнік. Калі з'явіліся сотавыя тэлефоны, зацікаўленне публічным тэлефонным апаратам паменшала, аднак бывалі там такія заўсёднікі, якія вечарамі доўга размаўлялі з сямейнікамі, што выехалі ў замежжа. Дзеля размовы па гэтым тэлефоне патрэбныя былі тэлефонныя карты, якія з часам звяліся ў мясцовай пошце, але тады можна было карыстацца картай *telegrosik*. Тэлефонная будка ўрасла ў арлянскі краявід і стала сімвалам гарадской цывілізацыі.

23 лютага г.г. пасля дзявятай раніцы пад'ехаў пад будку невялікі самаход і два мужчыны, не інфармуючы гмінных чыноўнікаў — а яна ж на гмінным пляцы — разабралі яе і парэзалі на кавалкі. Я акурат трапіў на гэты момант і ад здзіўленых разявак пачуў, што фірме ўтрымліванне будкі не акупляецца. Работнікі, што раскідалі будку, заявілі, што ў Беластоку ўсе такія прылады ліквідаваны, а гэтая ў Орлі — апошняя.

* * *

Яшчэ дванаццаць гадоў таму ў самой Орлі было каля трохсот стацыянарных тэлефонных апаратаў, зараз такіх каля соткі, а ў людзей цяпер мабільнікі, часта па некалькі ў адной хаце. Яшчэ ў 1980-х гадах устаноўку тэлефон лічыўся раскошай і ў Орлі было іх толькі каля соткі. Тады складана было атрымаць тэлефон, улады тлумачылі, што не хапае вольных нумароў. Пасля ўжо доступ да тэлефона пашырыўся, сталі нават напрошвацца, аднак за ўстаноўку тэлефона трэба было шмат плаціць, напрыклад, за ўстаноўку слупа, які ўжо стаяў і за які ўжо заплацілі іншыя асобы. Трэба прыгадаць, што тэлефонны апарат выглядаў у той час інакш чым цяпер; была ў ім ручка, якою трэба было пакруціць, каб выклікаць тэлефаністку, што абслугоўвала камутатар (быў ён у будынку Гміннай управы на ніжнім паверсе). Трэба было заказаць патрэбны нумар і чакаць, аж тэлефаністка спалучыць з ім, пры нагодзе падслухоўваючы размову...

Каля дваццаці гадоў таму наведала мяне журналістка Беластоцкага радыё Барбара Цірук, каб правесці са мною размову ў прамы эфір. Радыус яе мабільнікавай сеткі не хапаў Орлі і я запрапанаваў пакарыстацца маім тэлефонам з ручкай. Мая госця здзівілася, што гэта такое. Такая тэлефонная сувязь спрацавала і, напрыклад, мяне слухалі арляне, што ехалі на аўтобусе ў Беласток.

Толькі некалькі гадоў таму „жывы" камутатар у Орлі замянілі аўтаматам, а абаненты пазбавіліся апаратаў з ручкай і атрымалі апараты з дыскавымі нумаранабіральнікамі, сталі самі набіраць патрэбны нумар, тэлефаністкі страцілі работу а абаненты прыдбалі выгаду і незалежнасць.

(PAP - Darek Delmanowicz)

Калі сталі ўваходзіць мабільнікі, стваралася для іх і інфраструктура: у студзені 2001 года на калёніі Антанова тэлесетка „Idea" ўзвяла 50-метровую вышку з перадатчыкамі, а пасля іншая кампанія паставіла побач другую вышку. І людзі перадумалі і рашылі пазбыцца стацыянарных тэлефонаў. Але аказалася, што лягчэй было тэлефон падключыць, чым адключыць. Дзеля адключэння трэба было пісаць заяўку ў Катавіцы. Адключалі, але пакідалі кабель; гэта людзей ашарашвала. Чыноўнікі тлумачылі, што абанент, магчыма, раздумаецца, што захоча мець інтэрнэт. Трэба было пісаць чарговую заяўку на прыбранне кабелю ад дома да слупа, які праходзіў па ўчастку. Людзі апасаліся, што Тэлекамунікацыя, нягледзячы на адключэнне сувязі, стане налічваць аплаты за сам кабель; некаторыя саматужна скручвалі кабель і пакідалі яго на слупе...

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Патрэбны белыя палосы

Павятовая дарога з Орлі ў Бельск-Падляшскі, даўжынёй у дзесяць кіламетраў, заўсёды была важнай. Пры санацыі, як і большасць тадышніх дарог, была толькі грунтавая, часта балоцістая, па якой жалезнякі гразлі па восі. Тадышні ўладальнік арлянскай кафлярні Вайштын меў клопат з транспартам сваіх вырабаў у Бельск, часта дабіраўся іншымі дарогамі; гаварылася нават, што прапанаваў пабудову чыгуначнай лініі цераз Орлю, але, бадай, мяшчане не згадзіліся. У час нямецкай акупацыі немцы загадалі мясцовым сялянам зрабіць брукаваны насціл на гэтай дарозе, а брук паходзіў з разбітых мацэваў. Такая дарога была да 1980-х гадоў, пасля залілі яе ліхім бітумам і на ёй пасля кожнай зімы трэба было латаць калдобіны. Апошнім часам дарога з Орлі ў Бельск складалася з латаных ухабін.

Толькі ў палове мінулага, 2016 года гэтая павятовая дарога дачакалася грунтоўнай мадэрнізацыі. У выніку прац, вартасцю ў 1280 тыс. зл., быў адрамантаваны адрэзак даўжынёй 3,7 км (намнога карацейшы адрэзак пры выездзе з Орлі быў мадэрнізаваны годам раней). Рамонт заключаўся ў пракладцы двух слаёў асфальту, умацаванні абочын ды перабудове пратокі каля Вулькі і быў завершаны 10 кастрычніка 2016 г. З арлянскага гміннага бюджэту была адведзена дапамога Бельскаму павету вартасцю амаль у 440 тыс. зл. Мадэрнізацыі патрабуе адрэзак гэтай дарогі ад Парцава ў Бельск.

Зараз новы насціл дарогі выдатны, усе яго хваляць, але асфальт цёмны і ноччу шафёры губяць вось дарогі. Неабходна намаляваць белыя пуцяводныя палосы. З гэтай праблемай я звярнуўся да арлянскага войта Пятра Сэльвесюка. Войт адказаў мне так:

— Сапраўды, ёсць такая патрэба, каб тыя палосы выканаць. Немагчыма намаляваць паласу пасярэдзіне, якая б аддзяляла два напрамкі руху, бо дарога завузкая. Адзінае, што ў такіх абставінах можна зрабіць, гэта намаляваць берагавыя палосы, па абочынах асфальту. Пра гэта размаўляў з паветам. А павет прыдумаў, каб мы, Арлянская гміна, дакладаліся да рамонту дарогі цераз Парцава і далей у Бельск. І быў ужо запыт з Павятовай управы дарог, ці наша гміна сфінансуе частку коштаў. Падаю гэта камісіям Гміннай рады пад развагу.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Асноўнае, каб бізнес круціўся...

Польшча з'яўляецца самым вялікім экспарцёрам яблык у Еўропе. Да 2014 года экспартавалі 1 200 мільёнаў тон яблык. Значная частка пладоў траплялa ў Расею. Пасля расейскага эмбарга экспарт у 2015 годзе панізіўся да 946 тысяч тон. У мінулым годзе экспарцёры зафіксавалі прыбаўку да 1100 мільёна тон. Справа ў тым, што польская садавіна высакаякасная і мае добрую рэпутацыю на ўсходнім рынку. Зараз польскія яблыкі прабіваюцца на расейскі рынак праз... Беларусь. Усім гэтая справа добра вядомая. Але, калі пакупнік не пытае адкуль тавар, дык яму не адказваюць. І так быць павінна. Асноўная справа ў тым, каб бізнес круціўся і спажыўцы былі задаволены.

**(УС)**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі


# «Зорцы» — 60 гадоў!

Дарагія сябры! За намі шэсцьдзясят гадоў ад выпуску першага нумара «Зоркі», які выйшаў 7 красавіка 1957 года. Гэты юбілей прыкмеціў паэт Віктар Швед, ад пачатку звязаны з газетай. Больш за палову свайго жыцця «Зорка» выходзіла як асобны дадатак і ўкладыш да «Нівы». З яе пачыналі пісаць амаль усе сучасныя журналісты, пісьменнікі і беларускія дзеячы. Ад пачатку ёй прыпісаны дэвіз: *Кожны вучань павінен быць чытачом і карэспандэнтам «Зоркі»*. У любові прызнаваліся нам вялікія беларусы як Рыгор Шырма, Уладзімір Караткевіч, Лявон Тарасэвіч, Віктар Швед ці Сакрат Яновіч. Апошні, сам нейкі час вёў «Зорку» і заўсёды паўтараў, што гэта была яго самая клапатлівая задача ў «Ніве», з якой здольная справіцца толькі беларуская жанчына (!). З такой задачай цудоўна справілася рэдактар Яніна Чарнякевіч, якая вяла газету на працягу 31 года. Рэдактарамі «Зоркі» нейкі час былі таксама вядомыя пісьменнікі Уладзімір Паўлючук і Міра Лукша. Цягам апошніх 23 гадоў мне выпаў вялікі гонар весці газету для дзяцей і моладзі. Шматгадовы поспех мы абавязаны пачынальнікам і папярэднікам. Нам яшчэ пашанцавала (пры вялікай дапамозе настаўнікаў, журналістаў, мастакоў) стварыць брэнд: Сустрэчы «Зоркі». Менавіта ў час мінулагодніх XXXI Сустрэч, мы асвятлялі гісторыю «Зоркі» і спаткаліся з яе стваральнікамі. (Архіў і юбілейныя артыкулы можна прачытаць на старонцы «Сустрэчы Зоркі» ў фейсбуку).

З нагоды слаўнага юбілею самі сабе хочам пажадаць, каб на старонкі вярнуўся колер. Усё апошняе ёсць! Бо хоць у цэлым свеце рэзка панізілася зацікаўленне прэсай, мы назбіралі большую колькасць падпісчыкаў чым у 2015 годзе. Далей у нас ёсць класы і школы, дзе ўсе вучні падпісваюцца на «Зорку». І гэта цешыць не менш, чым цудоўныя і патрыятычна настроеныя аўтары, якія пішуць допісы, апавяданні і вершы.

Ганна **КАНДРАЦЮК**


Георгій Валкавыцкі, першы рэдактар «Нівы» і Вера Валкавыцкая, першая рэдактар «Зоркі»



З Янінай Чэрнякевіч на XXXI «Сустрэчах Зоркі»


Наш паэт Віктар Швед з чытачамі

## Юбілейная „Зорка”

Гані Кандрацюк-Свярубскай

Бяжыць час імкліва
Шустраю вавёркай.
Над роднаю „Нівай”
Лунае нам „Зорка”.

І ўжо без аглядкі
Зьяе шэсць дзесяткаў!
Так цешацца дзеці:
„Зорачка” нам свеціць!

Заўжды нас вучыла
Любіць край наш мілы,
Народ шматвяковы,
Беларускую мову.

Хай Твае прамені
Дзетак пакаленням
Далей служаць штодня
Зоркай пуцяводнай!

Віктар ШВЕД
Беласток, 7 красавіка 2017 г.

## УВАГА КОНКУРС!
## № 15-17

**Наведваю, дзеткі,**
**Я розныя кветкі,**
**Збіраю нектар.**
**Найлепшыя лекі**
**Прыроднай аптэкі —**
**Салодкі мой дар.**
**П.....** **(У. Мацвеенка)**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 23 красавіка 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

### Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 12-17: вясна. Узнагароды, кніжкі Міры Лукшы «Падарункі» з аўтографам, выйгралі Віктар Лінк з КШ № 1 у Гайнаўцы, Магда Якубюк, Барташ Бобжыцкі, Марлена Кандрацюк з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім. Віншуем!**

# Сакавіты сакавік

Сакавік на Падляшшы гэта насычаны падзеямі, але адначасова важны для школьнікаў месяц. Менавіта ў сакавіку ўспамінаем абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі. У сакавіку таксама інтэнсіўна вучымся вершаў беларускіх пісьменнікаў. Амаль штотыдзень у сакавіку праходзяць раённыя адборы да конкурсу «Роднае слова». Таму ў галовах шуміць не толькі вясна, але хочаш ці не — беларускія вершы. Трэба неяк падрыхтавацца, а каб запомніць тэкст, вядома, варта яго паўтараць. І хаця чытаеце гэтую «Зорку», будучы ўжо па цэнтральным конкурсе, які прайшоў 31 сакавіка ў Бельску-Падляшскім і адначасова завяршыў сёлетняе «Роднае слова», хачу яшчэ вярнуцца да раённых адборачных спаборніцтваў у Беластоку. Тут выступіла 58 удзельнікаў. Панядзелак — змена часу — трэба было падняцца на гадзіну раней. Сонечнае надвор'е і веснавое паветра паўплывала і на настрой удзельнікаў. Янка Шум са школы ў Рыбалах на сцэне не мог стрымацца ад смеху. Спачатку не было вядома ці выбраў сабе такі смешны твор, ці са сцэны смешна выглядалі сур'ёзныя твары членаў камісіі. У рэшце рэшт Янку трэба было сысці са сцэны і дэкламаваць верш прама перад камісіяй. Але гэта не было праблемай — Янка сказаў верш беспамылкова. Пасля выступу прызнаўся яшчэ вясёлым голасам, што школьны сябра адмыслова яго рассмешваў. Брава за спантаннасць! А калі гаворым пра Янку, варта таксама ўспомніць яго цёзку, класіка беларускай літаратуры Янку Купалу. Прысутныя на рэгіянальным адборы ў сядзібе БГКТ у Беластоку адначасова мелі магчымасць прысутнічаць у адкрыцці выстаўкі, прысвечанай памяці народнага паэта. Сёлета адзначаем сямідзесяціпяцігоддзе з дня смерці і стотрыццаціпяцігоддзе з дня нараджэння нацыянальнага пісьменніка. Ён напэўна вам вядомы не толькі па здымках, якія вісяць у школьных кабінетах беларускай мовы, але і таксама вядомы сваёй творчасцю, якую чуваць менавіта на конкурсах «Роднага слова». Да сёлетняга конкурсу напэўна будзеце вяртацца ці гэта чытаючы ранейшыя нумары «Зоркі», ці аглядаючы ролікі, якія вы рабілі тэлефонамі сваім найлепшым сябрам.

**Тэкст і фота Улі ШУБЗДЫ**

*Янка Купала*

## Вясна

У вянку з пралесак,
У святлянай шаце
Ходзе борам-лесам,
Полем, сенажацяй.

Сонцу-яснагрэю
Расплятае косы,
Раніцамі сее,
Як брыльянты, росы.

Сцелецца травіцай,
Ветрыкам шапоча,
Коціцца крыніцай,
Рыбкаю плюскоча.

Весела міргае
Сошцы і баронцы,
Зернятка хавае
Ў свежай баразёнцы.

У гайкі заходзе,
Шапаціць ліскамі;
Гутарку заводзе
З белкамі, дзятламі.

Роднае пралселле,
Вырай любіць вуча,
Лад вядзе ў капэле
Грамады пявучай.

Сяміцвет — вясёлкай
Ззяе над далінкай,
Ходзе за кароўкай,
Гляне і ў хацінку.

Дзецюку, дзяўчыне
Блогасна ўсміхнецца,
Штось на вуха кіне,
Закалоце сэрцам.

І ўсюды гэтак —
Полем, сенажацяй,
У кароне з кветак,
У святлянай шаце.

## Мастацкі конкурс з Пагоняй

Свята 25 Сакавіка ў беластоцкай гімназіі № 7 адзначылі арыгінальна. Як кожны год, тут праводзілі мастацкі конкурс «Мая Пагоня». Як адзначыла настаўніца Альжбета Рудкоўская, да конкурсу прыступілі вучні першых класаў. Самай цікавай мастацкай працай нашы сябры палічылі «Пагоню» Вікторыі Пякарскай. Віншуем!

**з-ка**

## Польска-беларуская крыжаванка № 15-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 11-17:**

Слых, фота, клей, смайлік, сам, сноб, Ян, дух, клака. Суп, сук, кмен, ода, фейсбук, войт, імя, парк, нос.

Узнагароды, кубкі з лагатыпам Радыё Рацыя, выйгралі **Пётр Вілюк** з Арэшкава, **Наталля Гарбусь, Марыя Кардзюкевіч, Дамініка Бобэль** з КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім, **Магдалена Люнда** з КШ № 1 у Гайнаўцы, **Аліўка Порац** з Нарвы, **Дамінік Чыжэўскі** з Новага Корніна, **Матэвуш Бонда, Оля Дудзіч** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Гося Дэц, Марта Драздоўская** з Міхалова, **Якуб Анішчук, Аляксандра Каліноўская** з Наравкі. Віншуем!

Szwed
Wiara
Bocian
Poczta
Media
Wiraż
Karykatura
Szakal
Dodatek
Pi
Wiersz
Burza
Giełda
Kęs
Ara
No
Skóra
Tura
Masaż
Kat
Pora
Lakier

**Юрка Буйнюк**

## НАРОД З ПУСТЫНЬ

Трыццаць гадоў таму
Гаварыла балгарская баба Ванга
Што народ з пясчаных пустынь
Морам натоўпу
Будзе заліваць Еўропу
І будуць плысці быстрыя патокі
За лёгкім хлебам
За свабоды небам
За ахвярамі мяча
За ўладай ветру і агню
Будуць гінуць мільёны
За шчырую веру Хрыста
У імя паўмесяца
Стане народ на народ
Неба для мучанікаў
Крывавая Пасха хрысціян
Святая вайна душы
Новы свет – новы лад
Джыхад!
**2017. 03. 30**

## СНЫ

Сніцца мне бабуля Манька
З сумным набожным тварам
Поўным болю і малітвы за нас
Пахілена над маім ложкам
Сумна пазірае на сённяшні свет
З вечнасці нябёс

Сніцца мне бабуля Марта
Што шэпча малітву
І працуе на «зінгеры»
Шые зялёнае-зялёнае плацце

Сніцца мне дзед Валодзька
Кажа што яму добра
Там п'е гарэлку з Піліпам
А з Яўфімам у карты гуляе
І рускія песні спявае

Яны ўсе
Родныя мае
Спазіраюць з гэтага свету
Як натхненне паэту

## СУСЕДЗЯМ

*Мікалаю і Валянціне Гярэзам*
*загінуўшым у аўтакатастрофе*
*2016.10.30*

Ніхто ў Малінніках не ведаў
Што так хутка адыдзеце
Ціхія добразычлівыя людзі
І ніколі не паразмаўляю
З дзядзькам Колем
І ніколі не ўбачу цёткі Валі
У залатым сонцы вясны
Што разлілося па Вашым панадворку
Белага раю доміку
Што з акон спяваў роднай музыкай
Па суботах вяшчала Рацыя
Сусед праз плот у суботы касіў траву
Суседка ў нядзелю ішла ў царкву
Сёння ўсё замерла малітвай за Вас
І вясна не рада за Вашу смерць
Не пара была Вам памерці
Яшчэ ўнукаў адгулялі б вяселле
Яшчэ зрабілі б грыль у нядзелю
Добрыя родныя людзі
Прыйшлі мне ў сне
Як за даўніх часоў
Пачуў іх ласку
Шчодрасць і любоў
Хай Вам будзе добра
У другім жыцці
Хацяя без Вас сумныя дні
Гэтай новай вясны
**Беласток, 2017.03.30**

# Голас
# пакрыўджаных ды забытых

Мікола ВАЎРАНЮК



„Расказвае жанчына: ***Бабка хадзіла да казачак палоць гароды, многа сланечнікаў вырошчвалі. Хадзіла таксама малаціць, а ў іх ужо былі малатарні; цэлую зіму малаціла.*** Тут перабівае яе мужчына: ***Гэта няважнае, дакончыш пазней...*** І пачынае сваё: ***Як пачалася рэвалюцыя, дзеда ўзялі белыя. Ну і белыя наступаюць. А ў горадзе стаяць чырвоныя, бароняцца. Падстрэлілі дзеда, узялі ў палон... (...)*** Але я не хачу слухаць ваенных расказаў. Я ўжо чытала пра тыя бітвы, ведаю, хто перамог і як усё тады было складанае. Я б хацела пра ачыстку гародаў казачак, пра малацьбу ўсю зіму. Пра тое, што адчуваюць бацькі, калі глядзяць на нямоглых ад голаду дзяцей. Зрэшты, калі ўжо мусім гаварыць пра тыя войны дзеда, то я больш хацела б пачуць пра тое, дзе ён хаваўся ад мабілізацыі белымі (ці чырвонымі). І як з тымі, што па яго прыходзяць, гаворыць бабка".

**Гэтыя словы Анэта Прымака-Онішк змясціла толькі на 206 старонцы кнігі „Бежанства 1915. Забытая ўцекачы", тым не менш, лічу, што яны маглі б быць эпіграфам.** Ды не толькі маглі б быць, але павінны стаяць у пачатку кнігі, пры чым тлустым друкам, бо яны паказваюць і метад працы аўтаркі, і змест кнігі, і яе наватарства. А якраз „за піянерскую распрацоўку тэмы бежанства і выдатны гістарычны рэпартаж, які спалучае ў сабе мясцовую перспектыву з універсальным вопытам выгнання" была прысуджаная Літаратурная прэмія прэзідэнта Беластока імя Веслава Казанэцкага. Гэта пакуль галоўны прыз, які атрымала Анэта Прымака-Онішк за выдадзеную пад канец мінулага года кнігу, але не адзіны. Была яна ўжо варшаўскай літаратурнай прэм'ерай у лістападзе. Пішу „пакуль", бо ў яе яшчэ шмат наперадзе. Кніга, для прыкладу, трапіла ў шорт-ліст узнагароды імя Рышарда Капусцінскага за найлепшы рэпартаж мінулага года ў Польшчы і ў фінал Варшаўскай літаратурнай прэміі. І дай Божа ёй чарговых поспехаў.

Чаму прыведзены фрагмент кнігі падаецца мне такім важным? Менавіта таму, што Анэта Прымака-Онішк паказала жахлівыя падзеі Першай сусветнай вайны і расейскіх рэвалюцый вачыма найбольш пакрыўджаных, найбяднейшых з бедных. Ужо самі бежанцы — у сваёй масе мужыкі з перыферыйных абшараў, з этнічнага беларуска-польскага і ўкраінска-польскага памежжа былі тымі, чый голас практычна не прабіваўся ў публічны дыскурс. А жаночы голас пагатоў не быў чутны за парогам іхнай хаты. І вось сто гадоў пазней Анэта Прымака-Онішк дала ім слова. Зрабіла так, што мы на бежанства глядзім вачыма маці, якая хавае дзіця, памерлае ад голаду або тыфу, вачыма жонкі, якая адпраўляе на фронт мужа, вачыма ўдавы, якая поле гароды казачак, або ўсю зіму малоціць збожжа, каб пракарміць дзетак. Трэба было яе ўражлівасці, рэпарцёрскага носа і таленту, каб прыняць менавіта гэтую перспектыву і зрабіць з тых трагічных падзей універсальную эпапею.

З бежанствам усе мы тут, на Беласточчыне, так ці інакш сустрэліся. Шмат хто ў дзяцінстве гуляў царскімі папяровымі рублямі ці пазнейшымі „керанкамі", знойдзенымі ў бабіным сундуку. Хто не чуў пра надзвычай багатую і гасцінную Расію, дзе белы хлеб елі штодзень, а стагоў з немалочаным збожжам было прынамсі на чатыры зімы? У размовах старэйшых на вясковых лавачках гучалі дзіўныя геаграфічныя назвы: Ташкент, Сызрань, Бузулук. Вельмі часта паяўлялася ў іх шырокая як мора Волга. Ну і вядома, дзяды бясконца маглі гаварыць пра „белых" і „чырвоных", іхныя войны, грабяжы, стрэлы і агонь, у якім згарэлі тыя сімвалічныя стагі са збожжам, а Расея ўмомант пераўтварылася ў галодную, халодную ды мала гасцінную. Але, як гэта адбылося, як тады жылі і выжывалі людзі, што елі, дзе спалі, чым лячыліся, дзе (і ці наогул) вучыліся дзеці, дзе працавалі бацькі, з чаго жылі дзяды? Гэтых пытанняў ніхто не задаваў. Мо таму, што мы былі замалыя, каб перабіваць нашых дзядоў, а мо папросту нас гэта не цікавіла. І не слухалі бабак. А малая Анэта сваю бабку слухала. І хаця не разумела размоў дарослых (баба памерла, калі ёй было сем гадоў), то тыя вобразы спякоты, экзатычных гарбузоў і вінаграду, стэпу і гор Каўказа не давалі ёй спакою і ў дарослым жыцці. І на канец выліліся ў кнігу. Таксама па тое, каб яе дочкі маглі пазнаёміцца са сваёй прабабкай Надзеяй.

Здавалася б, Анэта Прымака крыху запозна нарадзілася, каб узяцца за такую тэму. Апрача расказаў бабкі з ранняга дзяцінства, якія гучалі як казкі, практычна не мела нагоды паслухаць тых, хто свядома перажыў бежанства. Але „позняе" нараджэнне мела і свае козыры. Па-першае: дазволіла глянуць на тыя трагічныя гады шырэй, не толькі праз прызму перажыванняў уласнай сям'і. Па-другое: расказы бежанцаў жылі ў генетычнай памяці іх нашчадкаў, якія нарэшце захацелі імі падзяліцца. Па-трэцяе: з'явіліся публікацыі, якія ўсведамлялі важнасць тых падзей не толькі для тае ці іншые сям'і, але для цэлага рэгіёна, перш-наперш кніга выдадзеная ў 2000 годзе Праграмнай радай „Нівы" „Бежанства 1915 года" (перавыдадзеная з дапаўненнямі ў 2015 г.).

Можна сказаць, што ўжо кніга ўспамінаў з бежанства, сабраных ніўскімі журналістамі ад жывых яшчэ ў 1990-я гг. сведак падзей была тым прадвеснем сучаснага разумення гісторыі, не як агіяграфіі каралёў і праведзеных імі войнаў, а менавіта як апісання жыцця простага чалавека — сухога, канкрэтнага, без аўтарскіх каментарыяў. І гэтая публікацыя, думаю, невыпадкова апынулася на першым месцы бібліяграфіі, якую Анэта Прымака-Онішк змясціла ў сваёй кнізе. Яе не зможа абмінуць увагай ніхто, хто цікавіцца гэтай тэмай ці проста тым перыядам у навейшай гісторыі Беласточчыны.

Тым не менш, гэта толькі крыніца, з якой можна чэрпаць веды. Для напісання, аднак, такога гістарычнага рэпартажу, як „Бежанства 1915. Забытыя ўцекачы" патрэба шмат працы і, безумоўна, талент. Анэта Прымака-Онішк, на шчасце не толькі таленавітая, але і працавітая. Да кнігі ішла доўга, але паслядоўна, метадычна. Стварыла інтэрнэт-старонку *biezenstwo.pl*, на якую быццам пацеркі на нітку нанізваліся чарговыя аповеды, зацікаўляла гэтым пытаннем чарговыя асобы і ўстановы, чытала кнігі, якія хоць бы ўскосна краналі гэтую тэму, гартала перыёдыку, шукала рукапісы па прыватных і дзяржаўных архівах. Таму можна з упэўненасцю сказаць, што яе кніга ўвабрала ў сябе ўсё на гэты момант расказанае і апісанае, што тычыцца бежанства. І таму гэта не толькі сямейны расказ, а гісторыя пакалення, рэгіёна.

Хаця кніга, як я зазначыў у пачатку, напісаная з пункту гледжання простага чалавека, вельмі часта жанчыны, то ўсё-такі, дзякуючы скарыстаным крыніцам, апісаныя ў ёй падзеі даюцца на шырэйшым фоне, што дазваляе нам — сённяшнім чытачам — зразумець той час, тадышніх людзей і іх паводзіны. Уявіце сабе каля 10-тысячнага Кобрына 200-тысячны лагер уцекачоў. У летняй жары сем'і на вазах, з коньмі, каровамі, авечкамі. ***Маштаб бежанства прыгнятае мясцовых. Ніхто не дае гэтаму рады, улады апускаюць рукі*** (с. 93). Тым не менш, гэта не былі хаатычныя ўцёкі, якімі яны явіліся тым, хто апынуўся ў гэтым і падобных лагерах. Пятая частка чыгуначнага табару Расіі (115 тысяч вагонаў) была прадастаўлена бежанцам. Дапамагалі ім звыш 1300 арганізацый і камітэтаў — такую лічбу прыводзіць аўтарка за д-р Ленай Глагоўскай. Адтуль і тыя іншыя ўспаміны, не толькі пра загубленасць і смерць у дарозе, спёку, смагу, страх перад нязведаным, але і пра добры прыём у новым месцы, дастатак жыхароў Расеі, іх добразычлівасць. Часам ва ўспамінах паяўляецца экзотыка, як тыя вярблюды, на якіх выехалі сустракаць бежанцаў кіргізы.

Бежанства, як мы гэта разумеем цяпер на Беласточчыне, гэта не толькі ўцёкі. Гэта пэўная эпоха, якая пачалася ці то прымусовым, ці часам добраахвотным перасяленнем летам 1915 года, а заканчвалася як каму калі, пачынаючы ад 1918 г. па 1920-я гады, вяртаннем *на голы камень*, як Анэта Прымака-Онішк назвала адзін з раздзелаў кнігі. Гэтае вяртанне на радзіму, але ўжо ў новую айчыну, было не менш, а часта больш трагічным за выезд. І гэтыя падзеі таксама, хочам таго ці не, мелі і да сёння маюць уплыў на жыццё беларусаў у Польшчы. Важнай крыніцай для вывучэння гэтага перыяду з'яўляецца іншая ніўская кніжная публікацыя 2001 года: „У новай айчыне. Штодзённае жыццё беларусаў Беласточчыны ў міжваенны перыяд". На яе таксама спасылаецца Анэта Прымака-Онішк.

Усё роўна, у яе кнізе найбольш кранаюць асабістыя трагедыі і застаюцца ў памяці такія вобразы, як бездапаможны пасля смерці жонкі бацька хоча аддаць у прытулак дзяцей, бо сам не ведае, як імі заняцца. ***Бежанства не зрабіла з людзей анёлаў, звышгерояў***, — піша Анэта Прымака-Онішк. Яе кніжку не рэкамендую чытаць перад сном. Тым не менш, гэта абавязковая публікацыя на кніжнай паліцы кожнага чытача, не толькі аматара гісторыі.

# За Нарвай

З аўтобуса злажу ў Макаўцы. Іду вуліцай, паабапал якой напісана будаўнічым „алфавітам" крыху нядаўняга мінулага, і крыху даўнейшага мінулага гэтай вёскі. Можа там ёсць і нейкая будучыня, але яна, здаецца, пакуль што прыхаваная. Мог бы хто сказаць, што тут спыніўся час. Але ж не — ён няспынна вядзе сваю работу, разбуральную для мінулага, стваральную для будучыні...

Зараз за вёскай комплекс будынкаў, які там пастуpова вырастаў з пачатку 1950-х гадоў, калі ў Макаўцы быў заснаваны калгас „8 сакавіка". У 1958 годзе „Газета Беластоцкая" пісала так: „Spółdzielnia produkcyjna „8 marca" w Makówce nie należała do najlepszych. (...) Trudno ustalić konkretną datę, kiedy rozwiązała się spółdzielnia w Makówce. Niby oficjalnie — wiosną 1957 roku, a nieoficjalnie dopiero po żniwach tego roku". А неўзабаве ўзнік там чарговы калгас „Odrodzenie"... З ходам часу паяўляліся там чарговыя і чарговыя пакаленні сельскагаспадарчага прагрэсу; цяпер там камбікормавы завод.

А не так даўно была там фірма „Рольмак", якой мясакамбінат быў побач шашы з Нарвы ў напрамку Бельска. Дарога з Макаўкі вядзе туды цераз адносна малады лес, які ў веснавую пару становіцца тым месцам, дзе яго лятучыя насельнікі вызваляюць у акружаючае асяроддзе ўсе свае канцэртныя ўмеласці. І калі вушы поўняцца насалодай ад птушынай музыкі, у нос раптам трапляе іншы птушыны кампанент — удушлівы пах птушкафермы, што на месцы былой мясарні.

Кіруюся ў напрамку Даратынкі. Перад вёскай быццам даўнія ставы, быццам след па нейкім дварышчы. У пачатку вёскі будынак былой школы, які крыху павіс зараз у паветры: з-пад яго выбраны амаль увесь падмурак...

Іду ў напрамку Градочна. Дарога, асфальтоўка, вядзе цераз абшырныя лугі. У небе пралятае з курлыканнем чарада жураўлёў, над вёскай ціха кружаць тры ястрабы. Пры дарозе раскапаная пясочная дзюна, побач якой ляжаць тоўстыя кавалкі нейкага бетоннага муру. Здавалася мне, што там быў нейкі будынак, але пасля даведаюся, што нехта вывез туды непатрэбны яму друз і выкінуў...

У пачатку вёскі на лавачцы сядзіць пара пажылых вяскоўцаў; прысядаю да іх, пытаю пра вёску...

Да вайны пражывала ў Градочне сто восемдзесят душ, інфармуе мужчына, якому зараз 87 гадоў. А цяпер зімуе можа дваццаць. Лугі, пра якія я спытаў, у палове 1930-х гадоў былі змеліяраваны; тады таксама была праведзена камасацыя вясковых грунтаў, у тым ліку і сенажацей; рэчка, якая калісь прасочвалася цераз тыя сенажаці, называлася Бярозаўкай. А геадээіст нават так вымяраў участкі, каб іх межы сутыкаліся з меліярацыйнымі канавамі. І пра тыя канавы ў міжваенны час вельмі дбаў іх наглядчык — калі чыя карова пашкодзіла бераг канавы, трэба было спадзявацца непрыемнасцей. А цяпер ёсць нейкая водная суполка, якая бярэ грошы і нічога не робіць.

А пасля вайны быў у Градочне сельскагаспадарчы кааператыў, ад якога зараз амаль нічога не засталося. Былі гараж, старожка, машыны, якія „прадалі і прапілі". Была ў вёсцы крама, быў пункт прыёму малака...

У Градочне каля трыццаці хат, з якіх трынаццаць пустых. Большасці жыхароў больш за восемдзесят гадоў — тых, якім менш за восемдзесят, толькі шэсць душ. Цягам апошніх дваццаці гадоў не нарадзілася ў Градочне ніводнае дзіця; гэтаксама ў суседніх Даратынцы і Янове. А ў Градочне за той час памерла сорак чалавек...

Пытаю крышку пра пабачанае ў Даратынцы, пра магчымы двор. Быў там калісь суд, жыў там суддзя... А школьнаму будынку больш за сто гадоў, купілі яго зараз хлопцы, якія зарабілі крыху грошай у Англіі, але, відаць, не хапіла ім каб той стары будынак поўнасцю адрамантаваць.

А ў Градочне туга жыць. Вось у субяседніцы ёсць свой лес, але няма каго наняць, каб з таго свайго лесу прыдбаць сабе дровы. Прыязджаюць мабільныя крамы, але што будзе, калі жыхароў вёскі будзе менш, ці тым камерсантам аплаціцца ездзіць па такіх абязлюджаных вёсках? Да лекара ў Нарву няма чым дабрацца, з вёскі няма каго наняць, добра яшчэ, што дзеці жывуць у Беластоку, то прыедуць і завязуць.

А ёсць жа ж яшчэ і іншыя праблемы і трывогі. Вось нерухомасці, якія ўласнаручна будавалі вяскоўцы. Іх дзеці цяпер у гарадах і на тых дзяцей апісана маёмасць, як супольная ўласнасць. Але тыя гарадскія нашчадкі зусім не цікавяцца бацькоўскай спадчынай. Вось у субяседніцы дзве дачкі — адзін зяць „нетутэйшы" і ён зусім не цікавіцца цешчынай маёмасцю. А другі зяць „тутэйшы", але і ён не хоча брацца за тую жончыну спадчыну, бо ж яна — не ягоная, „чужая". Здараюцца ж такія выпадкі, што адно з дзяцей нешта зробіць на такой супольнай спадчыне, то другое можа пабегчы ў суд, бо ж гэта і яго ўласнасць. Гэта як у калгасе, той „дружнай сям'і", дзе ўсё быццам супольнае, уласнае, але не надта сваё.

А калі б апісаць кожнаму нешта паасобку, то ж тыя дзеці зараз пакрыўдзяцца, што аднаму лепшае, а другому не тое, чаго б хацелася. Тут як у дзіцячай рыфмаванцы, дзе сарока-варона кашку варыла, дзетак карміла, аднаму дала, а другому не дала. Мала таго — калі кожны аб'ект апісаны, напрыклад хата, то тое ўласнае дзіця, бывае што і з намовы мужа ці жонкі, загадвае бацькам з тае хаты выбірацца. І такая на старасць перад нашымі вясковымі людзьмі квадратура кола. Да таго ж — у субяседніка развальваецца хлеў, можна было б яго рамантаваць, але каму той хлеў патрэбны: дзецям, што ў гарадах, ці ўнукам, што ў Англіі?.. І хлявы тут нікому непатрэбныя, бо ж, нягледзячы на акружаючыя Градочна лугі, ніхто тут не застаўся, каб тымі сенажацямі карыстацца — усіх жа маладых і перспектыўных высмакталі гарады. І мае субяседнікі ўпэўненыя, што ў іх вёску ніхто не вернецца, што іхняя вёска запусцее.

Прапаную зрабіць здымак суразмоўцам, але адмаўляюцца, тады і не пытаю іх і пра персаналіі. Падаюся ў бок Янова. За вёскай працуе трактар. На мяжы поля і лесу тры крыжы рознай старасці, усе абвязаныя стужкамі, за якімі букеты штучных кветак.

Перад Яновам пажылая жанчына нешта сячэ на зямлі сякерай. Крыху далей заўважаю тры прыдарожныя крыжы, чацвёрты павалены. Вяртаюся да жанчыны выведацца пра тыя крыжы. Нядаўна ссеклі крыху сасновага лесу і жанчына папрасіла ў ляснічага, каб дазволіў насячы з голля крыху пучкоў. У жанчыны хворы муж і яна так сама мусіць рупіцца пра гаспадарку — сячэ галінкі на сырым тонкім сасновым ствале і звязвае шнурочкам у пучкі. Лес адносна малады, яму каля пяцідзесяці, але ён пасаджаны на месцы старога, які раней высеклі. А крыжы — вывадныя, бо па гэтай дарозе, цераз Градочна, выводзілі калісь пакойнікаў у Кленікі. А калі зрабілі новую дарогу, цераз Гародчына, то і пры ёй паставілі, новыя... А з гэтых старэнькіх крыжоў пасярэдзіне каменны, пастаўлены ў маі 1900 года; два драўляныя абапал яго таксама векавыя...

Пры скрыжаванні дарогі з Градочна ў бок рэчкі, Нарвы, і яноўскай вуліцы, чарговыя крыжы — іх пяць, усе яны нічым не аздобленыя, два крайнія новыя, а той што пасярэдзіне з 1903 года; высечаны калісь надпіс на апошнім так „папраўлены" фарбай, што зараз выглядае ён, быццам быў пісаны на нейкай праславянскай мове. Але ж нечаму дзівавацца — тут жа дэмаграфія выглядае не лепш чым у Градочне. А можа нават і значна горш — ніхто тут не паказаўся на вуліцу, каб пагрэцца на цёпленькім у той дзень сонейку, а на некалькіх панадворках былі відаць толькі легкавушкі выключна з беластоцкай гарадской прапіскай. Цалкам магчыма, што ў Янове зараз больш крыжоў чым пастаянных жыхароў...

А калісь-калісь у Янове бурліла жыццё; вось вытрымка з „Газеты Беластоцкай" з 1956 года: „Nasza organizacja partyjna domagała się, aby na stanowisku gajowego był uczciwy człowiek, nie pozwalający kułactwu za łapówki rozkradać lasu. Mimo specjalnych zebrań w tej sprawie i specjalnych uchwał naszej organizacji, nic w tym kierunku nie zostało zrobione. Teraz nasi towarzysze nie wierzą w skuteczność interwencji naszej organizacji. Dlatego tolerują nadużycia przewodniczącego Prezydium GRN w Janowie, który często się upija, krzywdzi swą żonę, załatwia sprawy po kumotersku i bierze łapówki...". Так было калісь, а можа і яшчэ весялей...

У Качалах крыжоў напэўна больш чым пастаянных жыхароў, бо, як мне сказалі ў Градочне, у Качалах засталася жыць усяго толькі адна жанчына. Зараз за мостам, мабыць на згаданай раней Бярозаўцы, цэментны крыж, на якім удалося мне прачытаць пачатак эпітафіі: „Сей крест сооружен Меланией Каминской...". А бліжэй вёскі два крыжы, з якіх адзін старэнькі, мабыць лацінскі, які ўрос у зямлю, а другі новенькі, праваслаўны, да якога прычэплена даведка, што там пахаваныя чырвонаармейцы, якія загінулі ў ліпені 1944 года, і прозвішча аднаго з іх: Хасена Аліевіча Уралбаева з Казахстана. І не было ў каго мне спытаца, ці тыя астанкі сапраўды засталіся ў Качалах, ці можа ўсё ж такі былі перапахаваны на ваенныя могілкі — у Бельск або ў Гайнаўку.

Сама вёска Качалы знаходзіцца быццам на выспе на беразе Нарвы, бо з боку Янова аплывае яе згаданая Бярозаўка, а з боку Даратынкі таксама два масткі на пракладзенай па балоце жвіроўцы. Магчыма, што ў нейкі даўні-даўні час было на той выспе нейкае паселішча, нейкая шматлюднасць, пра якую зараз можна толькі настальгічна здагадвацца.

Заглянуў я яшчэ да спадара Міхала Філяновіча ў Скарышэве, які вядзе ў сябе прыватную рэгіянальную ізбу — карцела мяне даведацца пра нейкі двор у суседняй Даратынцы. Быў такі, яшчэ ў XVIII стагоддзі, і жылі ў ім відныя знакамітасці тагачаснага Падляшскага ваяводства. Ды спадар Міхал навёў на мяне яшчэ адну рэфлексію — што ў нашым старонні гібее не толькі матэрыя, але і традыцыйная духоўнасць...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



Панадворак у Макаўцы


Хата ў Макаўцы


Крыжы ў Янове

Новае выданне

# Зялёная душа паэта жыве Словам




Няўжо беларускаму паэту з Беласточчыны Юрыю Баену — 60?! Мне дык не верыцца. Зусім нядаўна, здаецца, чытаў яго першы зборнік вершаў „Лісты блакітных успамінаў". Было яму тады толькі 44 гады. А ўжо 60! Юбілей!.. За гэты час мы радаваліся яго паэтычным знаходкам, калі паэт пісаў пра вечар над светам і пра крык дзікай ружы, пра наша неба і бераг надзеі, пра шкатулку святла і сённяшнія вочы зялёнай душы. Светлы паэт, шчыры, глыбокі, разважлівы, памяркоўны, а вершы яго — гэта філасофскі роздум пра наша чалавечае жыццё.

Зборнік вершаў „Вочы зялёнай душы", які з'явіўся ў бібліятэцы Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" — гэта своеасаблівая паэтычная майстэрня аўтара, дзе амаль заўсёды прыбрана ўсё лішняе, арганічна і мэтазгодна з'яднаны настрой, рытміка-інтанацыйны лад, рух вобразаў і развіццё думкі. З выхадам новых кніг паэт адчувае другое дыханне. Ён сам пранікаецца жаданнем усё бачыць і ведаць. Магчыма, прыйшло адчуванне сталасці, расцуць уласныя магчымасці, пашыраюцца далягляды — гэтым вызначаецца цяпер творчае самаадчуванне паэта. У вершах Юрыя Баены прысутнічаюць радасны настрой, прага дзеяння, нястомнай адданасці справе:

Каб сніліся сны,
Іду на скалісты абрыў.
Там стаю і гляджу,
Як за сёмым даляглядам
Скрозь сінеюць
Мае васількі.

Васількі паэта яшчэ будуць доўга сінець, радаваць і маладзіць душу паэта і яго пачуцці. Дарэчы, раней пачуцці і настрой Юрыя Баены як бы лакалізаваліся ў асобных вершах, часам глыбока прачулых, па-майстэрску адчаканеных. Цяпер яны быццам узнікаюць на адной душэўнай хвалі, выяўляюць той асаблівы стан творчай жыццядзейнасці, калі натхненне, быццам не спыняючы хады, вольна здабывае з жыцця яго духоўную і творчую энергію.

Паэт радуецца і жыве Словам. Слова для яго — „вочы зялёнай душы". І не абы якое Слова, а менавіта „нашае, маё, тваё, першае, тутэйшае, беларускае, роднае, кроўнае, славянскае". У адным вершы — безліч параўнанняў, выслоўяў, лозунгаў. Наша беларускае Слова паэт называе „ласкавым, пяшчотным, праўдзівым, мудрым, велічна-прыгожым". Наша беларускае Слова ў параўнанні Юрыя Баены, гэта Слова „крынічнае, азёрнае, роснае, крышталёва-чыстае, празрыстае, іскрыстае, зорнае, жытнёвае, пшанічнае, васільковае, рамонкавае, медунічнае, ціхалістае, шапатлівае, дуброўнае, жывічнае, сасновае, рабінавае, калінавае, жаваранкавае, жураўлінае, буслінае, салаўінае, вераб'інае, галубінае, малітоўнае, цудадзейнае, святое, вечнае". Наша беларускае Слова, як піша Юрый Баена, гэта „Слова моцнае, як сталь", гэта „скарынка хлеба і глыток вады", гэта „Слова веры, надзеі, любові" і г.д. Прызнаецца паэт чытачам, што ён „жывое Словам, чакае Слова, вітае Слова", што ён вязень Слова і яго стража. Вось як Юрый Баена ўсхваляе беларускае магутнае Слова.

Не меншая любоў у паэта і да роднай старонкі, якую ён апявае, любіць, ганарыцца. Роднай беларускай старонцы паэт прысягае на вернасць, але і перажывае, што апусцелі беларускія вёскі, дзе „Рабінзон Круза застаўся сам-насам у апусцелай вёсцы, як на востраве". А ў вершы „Беларусам" аўтар заклікае суайчыннікаў-сяброў, каб яны адкінулі ўсе хмурнасці і ветраломы, а таксама шэрасць дзён, а, наадварот, „на вышыню паднялі спеў харавы наш беларускі".

Многія вершы аўтара зборніка „Вочы зялёнай душы" набылі шмат новых рыс. Паэт па характары і складзе душы схільны да прамога выказвання, да адкрытасці. Ён умее адстойваць выразную грамадзянскую і жыццёвую пазіцыю. Усё часцей лірычны маналог паэта набывае характар даверлівай лірычнай споведзі. Ціхі роздум, самазасяроджанае пачуццё, душэўная прыветнасць усё мацней чуюцца ў гэтай споведзі. І гэтыя споведзі непрыкметна пераходзяць у паэтычныя малітвы, якія хочацца запомніць і паўтараць:

Каралева-Маці, зямная і нябесная,
Сінявокая, яснавалосая і белакрылая,
Абарані мяне, абнімі, да сэрца прытулі,
Затрымай ля сябе — назаўжды...

працяг ☞ 11

vhs
DVV International
Education for Everyone. Worldwide. Lifelong.
Eastern Neighbors
DVV INTERNATIONAL – UKRAINE – MOLDOVA – BELARUS – REGIONAL ACTIVITIES –

## www.dvv-international.org.ua

Welcome to DVV International Eastern Neighbours

Ёсць такая прымаўка — век жывi, век вучыся. На першы погляд яна можа падацца як нейкае сведчанне пра тое, што колькі б чалавек не вучыўся, усё роўна ўсяго не спазнае. Але калі падыходзіць да гэтай прымаўкі з практычнага боку, то ўсведамляеш яе як стымул да дзеяння. І ўзрост адыгрывае тут не самую галоўную ролю.

Навучанне для людзей, што даўно развіталіся з маладосцю, ёсць адным са сведчанняў таго, што ў дзяржаве створаны годныя ўмовы для працяглай жыццёвай самарэалізацыі. Такія курсы, школы і нават універсітэты існуюць у развітых краінах, дзе навучанне дарослых і старых успрымаецца натуральным. Для Беларусі гэта, на жаль, па-ранейшаму застаецца чымсьці незвычайным — калі сівы дзед ці бабуля недзе вучацца і як маладыя студэнты спасцігаюць тую ці іншую навуку. Ёсць, канешне, выключэнні, калі, напрыклад, старыя людзі вывучаюць камп'ютарную грамату — гэта ўжо ні ў каго не выклікае здзіўлення.

Навучанне дарослых тым не менш пакрысе ўкараняецца і сярод беларусаў. Спрыяюць гэтаму разнастайныя міжнародныя аб'яднанні, напрыклад, такія як DVV International. У інтэрнэце існуе яго сайт, што месціцца па адрасе **www.dvv-international.org.ua**, дзе бачна, што дзейнасць гэтай нямецкай арганізацыі скіравана не толькі на Беларусь, а таксама на Украіну і Малдавію. З яго зместам можна пазнаёміцца па-беларуску, па-руску, па-украінску, па-малдаўску і па-англійску.

„Deutscher Volkshochschul-Verband e.V. (DVV) — Нямецкая асацыяцыя народных універсітэтаў — была заснавана ў 1953 г. і прадстаўляе інтарэсы 16 зямельных (рэгіянальных) асацыяцый і каля 900 народных універсітэтаў (НУ) на федэральным, еўрапейскім і міжнародным узроўні", — распавядаецца ў беларускамоўнай частцы сайта, пры гэтым там указваецца, што асноўная мэта прадстаўніцтва DVV у Рэспубліцы Беларусь — садзейнічаць дзейнасці ў сферы адукацыі, навукі, культуры, асветы, духоўнаму развіццю асобы дзеля пераадолення беднасці.

Згодна інфармацыі, пададзенай у рубрыцы „Сетка партнёраў", з 2009 года спектр партнёрамі пастаянна пашыраецца і на сённяшні дзень уключае ў сябе шырокае кола няўрадавых і ўрадавых арганізацый. Краінавы офіс супрацоўнічае з больш чым 60 партнёрамі ва ўсіх шасці рэгіёнах Беларусі. (Адзначым, што ў Беларусі сем рэгіёнаў — шэсць абласцей і сталіца Мінск). Праўда, з тых арганізацый, лагатыпы якіх месцяцца ніжэй, большасць прадстаўляюць менавіта ўрадавыя структуры.

Паводле звестак у рубрыцы „Праекты", DVV International у Беларусі зараз вядзе толькі тры праекты — „Развіццё адукацыі дарослых", „Вучыцца, каб дзейнічаць" і „Адукацыя адчыняе дзверы". Назва першага праекта гаворыць сама за сябе. Мэта ж другога — садзейнічанне рэалізацыі права на адукацыю на працягу ўсяго жыцця і грамадзянскі ўдзел. А задача трэцяга — умацаванне патэнцыялу пенітэнцыярнай сістэмы Беларусі ў пытаннях гуманізацыі папраўчых устаноў і сацыялізацыі асуджаных за кошт адукацыі.

Пра вынікі дзейнасці арганізацыі за ўсе гады можна даведацца з рубрыкі „Публікацыі". „Навіны" ж распавядаюць пра падзеі, што адбыліся, ці маюць адбыцца. Праўда, абнаўляюцца яны не надта часта, бо апошняе паведамленне датуецца леташнім снежнем.

❖ Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара

Вялікі канцлер вялікай дзяржавы



# 460 гадоў з дня нараджэння Льва Сапегі

Нарадзіўся Леў Сапега ў родавым маёнтку Астроўна (цяпер Бешанковіцкі раён Віцебскай вобласці). Належаў да старэйшай чарэйскай лініі магнацкага роду Сапегаў. Сын Івана, старосты дарагічынскага і падстаросты аршанскага і Багданы з Друцкіх-Сакалінскіх. Малалетнім яго аддалі на выхаванне ў Нясвіжскі двор Мікалая Радзівіла Чорнага, які пазней выправіў 13-гадовага юнака атрымліваць адукацыю ў Лейпцыгскі ўніверсітэт. Там перайшоў у кальвінізм, пра што напісаў потым у сваім тастаменце. На Радзіму вярнуўся каля 1572 г.

Цягам свайго жыцця Леў Сапега займаў розныя высокія пасады ў Вялікім Княстве Літоўскім: 4 лютага 1580 г. атрымаў пасаду сакратара Яго Каралеўскай Міласці Стэфана Баторыя, а пасля складання перамір'я з Масковіяй стаў пісарам вялікім літоўскім (згадваецца на пасадзе ўжо 3 сакавіка 1581 г.). Пасля адмовы Крыштапа Радзівіла Перуна ад пасады падканцлера быў прызначаны на гэтую пасаду 2 лютага 1585 г. 20 ліпеня 1586 г. атрымаў прывілей на Слонімскае судовае староства пасля смерці Рыгора Валовіча. Гэтую пасаду займаў да 1605 г.

Пад канец варшаўскага пацыфікацыйнага сойму ў канцы красавіка 1589 г. атрымаў ад караля Жыгімонта Вазы пасаду канцлера Вялікага Княства Літоўскага, якую займаў да прызначэння віленскім ваяводам. Прызначэнне на апошнюю пасаду атрымаў у 1623 г. (вядома з намінацыі на канцлерства Вялікага Княства Літоўскага яго наступніка — Альбрэхта Станіслава Радзівіла, які атрымаў намінацыйны прывілей на пасаду 6 лютага 1623 г.). Захаваўшы пасаду віленскага ваяводы, каля 25 ліпеня 1625 г. атрымаў прызначэнне на найвышэйшага гетмана Вялікага Княства Літоўскага. Акрамя таго, займаў пасаду маршалка Галоўнага Трыбунала ў 1604, 1624 і 1630 гадах.

На апошнім этапе Інфлянцкай вайны (1558-1583) атрымаў вядомасць як вайсковы дзеяч і дыпламат. Сфармаваўшы за свой кошт гусарскі полк, пасляхова выявіў сябе ў бітвах пад Завалаччам, Вялікіх Луках, пры аблозе Пскова. Пасля заканчэння вайны ўзначаліў пасольства Рэчы Паспалітай у Маскву, дзе падпісаў з царом Фёдарам Іванавічам мірнае пагадненне на 10 гадоў. У 1600 г. зноў ездзіў з пасольствам у Маскву, дзе зноў склаў мірнае пагадненне на 20 гадоў ужо з Барысам Гадуновым. Нягледзячы на тое, што паміж Масковіяй і ВКЛ частымі былі ваенныя і розныя дыпламатычныя сутыкненні і асабістыя адносіны Льва Сапегі да гэтай краіны не заўсёды былі дружалюбнымі, пасля смерці караля Стэфана Баторыя яго апанавала думка пра аб'яднанне Рэчы Паспалітай з Масквой. Аб'яднанне гэтых народаў і абранне імі адзінага манарха, на думку Льва Сапегі, спрыяла б росту іх эканамічнага і вайсковага патэнцыялу, забяспечыла б трывалы мір.

Калі ў 1620-я гады ў межы Вялікага Княства Літоўскага чарговы раз уварваліся шведы, браў удзел у ваенных дзеяннях, вылучыўшы на фінансаванне войска значную частку сваіх уласных сродкаў. Быў адным з ініцыятараў падпісання сепаратнага Балдэнмуйскага замірэння са Швецыяй у 1627 г. і Альтмарцкага міру, складзенага ў 1629 г.

Апошнія гады жыцця Леў Сапега правёў у Вільні, дзе актыўна займаўся ўпарадкаваннем архіваў Метрыкі ВКЛ (работу над рэгістрамі дакументаў архіўнага збору ён пачаў яшчэ ў 1594 г.). Памёр і пахаваны ў Вільні ў касцёле св. Міхала. У яго гонар у Беларусі выпушчаны адмысловыя марка і памятная манета, названы пляц у Слоніме, вуліца ў Мінску, у Лепелі пастаўлены помнік.

❖ Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

10 ☞працяг

## Новае выданне

Магчыма гэта адзіны зборнік з усіх напісаных і выдадзеных Юрыем Баенам, які проста перапоўнены эпітэтамі і параўнаннямі. Але яны не шкодзяць, а наадварот надаюць яго паэзіі нейкую глыбіннасць, вобразнасць, падтэкст і патрабавальнасць: „край мой — крык дзікай ружы", „арктычная навагодняя цішыня", „у краіне маўклівага камення", „празрыстая высь, вольная даль" і г.д.

Юрый Баена ўмее паэтызаваць галоўныя вартасці жыцця, выяўраючы іх і розумам, і сэрцам. Яго займае агульная філасофія быцця: сэнс і змест чалавечага жыцця, маральныя асновы асобы, крытэрыі паводзін чалавека з пазіцый сумленнасці, праўдзівасці і высокага грамадзянскага абавязку. Лірыка паэта даволі сімпатычная. Ён умее рамантычна паэтызаваць і веліч часу, магчымасці чалавечага розуму, паэту ўласцівы цэльнасць паэтычнай свядомасці і гарманічная сувязь матываў: „кожная рана — мая перамога", „Кожны шрам — радок верша", „мой твар запісаны кірыліцай".

Многія вершы Юрыя Баены свецяцца любасцю да гэтага свету, добрай радасцю новых і новых сустрэч з усім прыгожым і сонечным, што адкрываецца яго душа ў мностве праяў. Паэт не перастае захапляцца прыродай, хараством роднага краю. Найбольш ён любіць вясну і восень. Гэта адчуваецца па яго ных радках. Вясну паэт называе харашухай, а яшчэ найпрыгажэйшаю з прыгажунь, вястункай шчасця і святла. Паэт марыць разам з вясной пабегчы басаножа да васільковых палёў і сярэбраных рос. І там, на квяцістых лугах, яны „разам вып'юць да самага дна таемны келіх... віна...". А восень паэту падабаецца з-за таго, што ён „вырай адкрывае — вершам". Вядома ж, не крыўдзіць аўтар і лета. Цікавым і глыбокім атрымаўся верш „Лета ў Мокрым" (Мокрае — родная вёска паэта. — С. Ч.), дзе на „падваконніку зялёны расце верш" і куды „шлях адкрыты і неадкрыты".

Новы зборнік вершаў Юрыя Баены і тужлівы. Тужлівасць адчуваецца ў радках, дзе аўтар шчыра апісвае сваю маленькую радзіму, успаміны з маленства, піша пра тое, што даўно прайшло, дзе яму „мілыя быллё і трава, дарагое шамаценне лісця", дзе, „як цені няспоўненых мараў, прылятаюць да мяне галубы". Лірыка на гэтую тэму набыла характар мудрай, стрыманай, крыху журботнай развагі аб перажытым. Часам унутраны маналог нібы адрасуецца нейкаму суразмоўцу, адначасова адчуваецца, што гэта размова з самім сабою. Думкі і настрой аўтара праецыруюцца на ўсё перажытае, на той пройдзены жыццёвы шлях за свае 60 гадоў. А гэты шлях быў творчым і плённым: і на розныя публікацыі на старонках беларускага і польскага друку, і на выданні кніг паэзіі. Таму Юрыя Баену хочацца шчыра павіншаваць з новай кнігай твораў і з юбілеем! Няхай яго вочы, галава, душа і сэрца яшчэ доўга працуюць і радуюць нас цікавымі творамі.

І апошняе. Вокладку кнігі вершаў „Вочы зялёнай душы" праектаваў сын паэта — Адам Баена. Арыгінальная вокладка.

❖Сяргей ЧЫГРЫН

## Падляшская мытная служба

Падаткі і мытная пошліна, якія бярэ Мытнае ведамства Рэчы Паспалітай складаюць 1/3 частку поўных даходаў дзяржаўнага бюджэту. У мінулым годзе з Падляшскай мытнай палаты ў дзяржаўны бюджэт паступіла разам больш за тры мільярды злотых, у тым ліку акцызнага падатку больш за 2 мільярды 500 мільёнаў злотых, прыбытку з падатку ПДВ — 412 мільёнаў і з мытнай пошліны — больш за 73 мільёны злотых. На пагранпераходах у Кузніцы, Баброўніках і Полаўцах мытнікі адправілі 421 тысячу грузавых аўтафураў. На дарожных, чыгуначных і турыстычных пераходах мяжу перасякло 4 мільёны 47 тысяч падарожных. Важным фактарам у міжнародным таварным абмене, таксама імпульсам для ажыўлення прыгранічных раёнаў з'яўляюцца закупкі ў польскіх крамах, якія робяць замежныя госці. У мінулым годзе ў падляшскіх магазінах мытная служба зарэгістравала 930 тысяч дакументаў «Tax Free», на аснове якіх падарожныя (у асноўным з Беларусі) вывезлі тавары вартыя разам 715 мільёнаў злотых.

Падляшскія мытнікі станоўча ставяцца да службовых абавязкаў. Дбаюць пра бяспечнасць грамадзян, таксама ліквідуюць пагрозу кантрабанды, фальшыўкі тавараў, незаконнага азарту, акцызнага ашуканства і незаконнай міграцыі. У мінулым годзе падляшскія мытнікі выставілі больш за шэсць тысяч штрафаў на агульную суму па-над тры мільёны злотых. Аштрафаваныя асобы не толькі нясуць грашовае пакаранне, але разумеюць паслядоўнасці канфіскаты незаконнай кантрабанды. У 2016 годзе падляшскія мытнікі занялі 250 аўтамабіляў і прычэпаў, у якіх была выяўлена кантрабанда, таксама 4 мільёны 850 тысяч пачак папяросаў, пяць тон тытуню, тры тысячы літраў спіртнога, 1100 нелегальных аўтаматаў для азартных гульняў, тысячы фальшывых цацак, аўтамабільныя аксесуары і касметыка. У мінулым годзе Падляшская мытная палата знішчыла больш за пяць мільёнаў пачак занятых сігарэт і больш за дзве тоны тытуню. Занятыя з кантрабанды аўтамабілі і тавары прадаюцца на аўкцыёнах. Такім чынам у мінулым годзе папоўніўся дзяржаўны бюджэт па-над мільён злотых.

Крыніца: bialystok.scelna.gov.pl.

(апрацаваў: УС)




## Турнір валейбола ў Нараўцы

Нядаўна ў гімнастычным зале Комплексу школ у Нараўцы Гайнаўскага павета адбыўся турнір валейбола ўстаноў і прадпрыемстваў Нараўчанскай гміны. Спаборнічала пяць спартыўных каманд.

Першынство заваявала каманда філіяла прадпрыемства «Пронар» у Нараўцы ў складзе: Тамаш Савіцкі, Тамаш Ламашкевіч, Войцех Смактуновіч, Данель Карпюк і Войцех Болтрык; другое месца заняла каманда тартака ў Семяноўцы ў складзе: Каміль Шыманюк, Тамаш Каліноўскі, Андрэй Дрозд, Тадэвуш Адамюк і Павел Валкавыцкі; трэцяе месца — каманда Надлясніцтва Броўск у Грушках каля Наракі ў складзе: Андрэй Мелеш, Андрэй Ігнацюк, Ігар Бірыцкі, Давід Панкоўскі, Ян Янушкевіч, Кшыштаф Шумарскі і Юлія Мельхэр, чацвёртае месца — каманда Пагранзаставы ў Нараўцы ў складзе: Давід Радзіванюк, Павел Якімюк, Марк Хмара, Данель Смалінскі і Пётр Аніскевіч ды пятае месца — каманда Комплексу школ у Нараўцы ў складзе: Міраслаў Краснапольскі, Аліна Аўрук, Юрый Бароўскі, Віялета Крушэўская і Агнешка Салавей.

Усе вышэйзгаданыя каманды атрымалі памятныя дыпломы і кубкі. Былі гэта ўзнагароды войта Нараўчанскай гміны Мікалая Павільча. (яц)

## Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. Саўдаўская = 34 _ 31 _ 32 _ 6 _ 7 _ 17 _;
2. зорка Максіма Багдановіча = 33 _ 41 _ 35 _ 36 _ 37 _ 38 _;
3. касіў канюшыну, сырадэлю, траву = 4 _ 5 _ 39 _ 15 _ 40 _;
4. мой родны, які мне мілы = 28 _ 29 _ 30 _;
5. уліваецца ў Дунай у Бялградзе = 24 _ 25 _ 10 _ 11 _;
6. сталіца Фіджы = 2 _ 1 _ 26 _ 3 _;
7. між Беларуссю і Румыніяй = 20 _ 21 _ 22 _ 23 _ 27 _ 14 _ 13 _;
8. легендарная незвычайнасць = 16 _ 9 _ 12 _;
9. банкаўскі дакумент у... чэкісткі = 18 _ 19 _ 8 _.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | | | | | | | | |
| | | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | | | | | | 10 | 11 | 12 | 13 |
| | | | 14 | 15 | | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| | | | | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | |
| | | 35 | 36 | | 37 | 38 | 39 | 40 | 41 |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 12 нумара**

Адозва, Шчара, Турцыя, вусы, дзейнік, Пегас, Абама, дына, камбайн, водар, асілак.

Рашэнне: **Туман звычайна бывае перад адлігай**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

## 09.04 — 15.04

**(22.03. — 20.04.)** Вызначай мэты і кіруйся да іх. 11-15.04. адкрыеш у сабе новы талент. З 9.04. (да 20.04.) пагражае табе любоўнае расчараванне. Каб выблытацца з неадназначных адносін, пачакай з рашэннямі да 15.04. Многа замяшання ў хаце наробяць сваякі. На рабоце пакажашся, звернеш на сябе ўвагу кіраўніцтва. Варта змяніць свой імідж, прычоску і асвяжыць гардэроб.

**(21.04. — 21.05.)** Ашчаджай сілы і дбай аб здароўе. Ад 8.04 (да 20.04.) можаш адчуць, што стаіць перад табою мур абыякавасці. Да 11.04. не дай сябе ўцягнуць у саперніцтва. З 15.04. можаш спадзявацца любоўнай прыгоды. Самотных Рыб можа чакаць сустрэча з былым каханнем. Стрымайся ад большых пакупак, а асабліва ад бранíравання канікулярных экскурсій. Хочаш пайсці на сваё? Маеш цяпер энергію і магчымасці, можаш пастарацца за датацыі. З 14.04. не траць упэўненасці і веры ва ўдачу пачатых мерапрыемстваў.

**(22.05. — 22.06.)** Цяжка будзе кантраляваць выдаткі. Магчымае пагаршэнне настрою, здароўя і адносін з блізкімі, слабая ахвота да дзеяння. Але ўсе непаладкі залагодзіць Юпітар. Над тваёй парай таксама збіраюцца хмары, дык адкладзі іншыя справы, а займіся партнёрам. Прыкладвайся да працы, не камбінуй, каб потым не здзівіцца, што хтосьці іншы ўзнагароджаны. Схадзі да лекара, асабліва да акуліста.

**(23.06. — 23.07.)** 9.04. можаш здабыць штосьці там, дзе страцяць іншыя. 11.04. будзеш мець многа самаўпэўненасці. Пераможаш канкурэнцыю і адкрыеш рот крытыкам. Але можаш апынуцца ў нязручнай сітуацыі ў кампаніі. Рост жыццярадаснасці і лібіда. Любоўныя сюрпрызы. Дома кажы проста, што думаеш. Удалыя бізнесовыя сустрэчы і кваліфікацыйныя размовы ад 15.04.

**(24.07. — 23.08.)** Ад планавання пяройдзеш да дзейнасці. 9-10.4 можаш даць згоду на не вельмі карысныя для цябе ўмовы. 11.04. інтэнсіўныя ўражанні, гарачыя рандэву. 11-15.04. нічога не прымай за пэўнае. 11.04., калі ад нейкага часу ходзіш каля кагосьці, дык будзе гэта добры момант, каб знаёмства перайшло ў новы этап. На працы, калі хочаш пазбегчы непаразуменняў, добра тлумач свой пункт гледжання. Не перайміся станам свайго здароўя — Сонца ўзмоцніць твой імунітэт і псіхіку.

**(24.08. — 23.09.)** Трэба будзе паафармляць нуднаватыя ды патрэбныя справы. Энергіі табе стане, хаця некаторыя твае дзеянні будуць блакавацца. Адазвуцца далёкія сваякі. Шэф ашчадны ў хвальбе, але прыкмячае твае стараннi. Але з 14.04. можаш непатрэбна нарабіцца аж да стомы. 14.04. сітуацыя можа цябе перарасці.

**(24.09. — 23.10.)** 9-10.04. не думай, што твае праціўнікі слабыя. Найважнейшыя справы пойдуць па-твойму. Магчымыя цікавыя сюрпрызы. Будзеш засяроджаны і ўдачлівы. Шалі з другой дэкады: зарэзервуйце час на любоўныя спатканні 9-11.04. Не слухай падшэптаў Юпітара, каб паказацца за ўсю цану. Купляй тое, што патрэбнае, а не каб паказаць, што купіць ты ў змозе. Звярні ўвагу на тое, як сядзіш ці ходзіш — можа з-за таго баліць табе спіна.

**(24.10. — 22.11.)** Шмат залежыць ад цябе самога. Трымай нервы на павадку. Будзеш здольны да экстрэмальнага высілку. Вясновыя вятры могуць да цябе прывеяць новае каханне! Першае ўражанне, якое на кімсьці акажаш, можа мець вельмі файны працяг. Прыцягнуць цябе грамадскія справы, можаш увайсці ў нейкую грамаду, суполку. Для народжаных у трэцяй дэкадзе шыкуюцца цікавыя прафесійныя прапановы. Не прастудзіся, асабліва 9-11.04.

**(23.11. — 22.12.)** Не пападай у крайнасці. Удасца штосьці змяніць на лепшае, вырашыць шмат праблем. Можаш знайсці стары ліст, здымак, выпадкова сустрэцца з кімсьці, і нахлынуць успаміны. Не паўтарай былых схем! 15.04. нервовасць і рассеянасць могуць прынесці праблемы. Добры час для Стральцоў-артыстаў. Выходзь на сонца, пі ваду і зёлкі.

**(23.12. — 20.01.)** 9-11.04. магчымыя канфлікты. 9-15.04. будзеш прымушаны правесці час з не вельмі прыемнай для цябе асобай. А асоба, аб якой марыш, можа аказацца недаступнай. З 15.04. магчымыя цікавыя заданні на працы, удзел у новым праекце, што можа прынесці павышэнне. Пі ваду і белую гарбату, добра высыпайся.

**(21.01. — 19.02.)** Будзеш моцны, працавіты, вецер падзьме ў твае ветразі. Энергічна афармляй свае справы. Хораша ў пары, магчымасці і ў сінглаў, але наўрад ці пойдзе ў іх у сур'ёзны бок. На працы смела ідзі ўперад, але добра плануй сілы. 9-15.04. хтосьці можа паказаць цябе ў чорным святле.

**(20.02. — 21.03.)** Будзеш вырашаць сам аб сабе. 9-15.04. не ўяўляй сабе таго, чаго няма. Гайданка настрояў. Добры даход і шанцаванне ў фінансах. Паладзіш сваё жыццё і разблытаеш складаныя пачуццёвыя сітуацыі. Нагоды да трапнай змены іміджу. З 15.04. будзеш мець досыць вылучэнняў і кампліментаў.

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# У палескай глыбінцы (80)



■ Уязная брама ў палац Вішнявецкіх

У Любашоў звабіла мяне занатоўка даваеннага пісьменніка і журналіста Антона Асэндоўскага, які ў надта папулярнай і перакладзенай на 19 моў кнізе „Polesie"* так напісаў пра гарадок над Стаходам:

*Князь Ян Караль Дольскі, вялікі маршалак літоўскі, у пасаг за дачкой Кацярынай перадаў Міхалу Вішнявецкаму маёмасць Любашова. Сёння ад двара засталася толькі імпазантная ўязная брама; у той жа час гасцявала тут інтэлектуальная эліта Рэчы Паспалітай і найбольш асвечаныя госці-чужаземцы, якія захапляліся надта адукаванымі лакеямі і пакаёўкамі.*

З падобнай сілай вабіў здымак той жа брамы, якую кракаўскі падарожнік, верагодна, сфатаграфаваў у пачатку трыццатых гадоў XX стагоддзя. Прызывала таксама асоба Тадэвуша Касцюшкі, які сто семдзесят пяць гадоў перад Асэндоўскім прыехаў у Любашоў вучыцца ў калегіі піяраў і правёў тут пяць гадоў.

На Палессі ля верхняй Прыпяці надта цяжка пабачыць помнік архітэктуры першай паловы XX стагоддзя, а калі ўжо наткнешся на старэйшы будынак — дык гэта цуд. Быццам усю матэрыяльную гісторыю праглынула зманлівае, смяротнае балота, якое тузёмцы называюць *дрыглі*. Я не разлічвала, што наткнуся на след Касцюшкі. І смехам-жартам, каб не дазволіць на чарговую паразу, мае спадзяванні абмежаваліся да сустрэчы з нашчадкамі „надта адукаваных лакеяў і пакаёвак".

* * *

І сапраўды, гэты канцэпт спрацаваў па поўнай праграме. Я не паспела выкараскацца з аўтобуса, як мяне акружылі надта адукаваны таксісты. Яны ведалі ўсё лепш за мяне, то-бок куды мне трэба падацца на іх машыне. Той-сёй называў знаёмыя гарады: *Лодзь, Зялёна Гура, Люблін, Варшава*....

Я без аглядкі пашыбавала ў раскрыты наўсцяж аўтавакзал да інфармацыйнай даведкі. Навокал бушаваў паўдзікі гандаль і перамяшчаліся гурмы пасажыраў і пакупнікоў. З кожнага боку хтосьці трубіў, працiскаўся праз паток абы-як запаркаваных машын. На падмурку ля карчмы выседжвалі бабулькі ў хустках і таргавалі кавунамі, тварагом, чарніцамі і падазронымі бэткамі. Свой няхітры тавар парасkладвалі проста на дзіравым тратуары. Сам аўтавакзал уяўляў бляшаны будан, для непазнакі памаляваны фарбай. Ад надта ветлівай касіршы, якая запрасіла мяне ў службовае памяшканне, я даведалася, што ў Любашове ёсць стары парк з брамай. І гэта зусім недалёка. Усяго пятнаццаць хвілін маршу. Жанчына прапанавала пакінуць у яе службовым пакойчыку рукзак.

— Пані ідзе, я прыпільную! — сказала з польска.

Першы адрэзак дарогі, які вёў у бок цэнтра, мясцовы архітэктар шчыльна забудаваў мініяцюрнымі салончыкамі з бляхі. У адным я набыла гадзіннік за тры долары і сонечныя акулярkі за падобныя грашакі. На цэнтральнай плошчы, нейкія паўтара кіламетра ад аўтавакзала, я наткнулася на Віталя Верамчука. Працаўнік нацыянальнага прыроднага парку накіраваў мяне ў будынак колішняй калегіі піяраў. У бліжэйшай будучыні з думкай пра палякаў, якія ўсё часцей прыязджаюць у Любашоў, хочуць у ёй наладзіць краязнаўчы музей у гонар Тадэвуша Касцюшкі.

— Толькі з чаго пачаць? — разгублена заявіў Віталь. — Да якой польскай установы звярнуцца за дапамогай?

У глыбі душы мне стала крыўдна за палешукоў. Па словах майго субяседніка я зразумела, што Касцюшка тут чужы. Каб звесці тэму на зямлю, я распавяла пра беларускую Мерачоўшчыну, дзе з дапамогай амерыканцаў і палякаў па гістарычным плане аднаўлены двор кіраўніка паўстання 1794 года. Я, госця-чужаземка, прапанавала адразу ехаць у амерыканскае пасольства.

Аказалася яшчэ, што Віталь ведае



■ Віталь Верамчук (злева) і Сцяпан Аласюк

нашу Нарву. Назіраў спаборніцтвы па касьбе травы касой у пойме Нарвы. Конкурс у рамках беларускага купалля ладзіў Ігар Лукашук і пра гэта пісала наша «Ніва». Як не цікава, ідэя з падляшскага панадворка завандравала на Прыпяць і там прыжылася. На Палессі такія навіны значаць больш чым значаць. Касьба над Нарвай і Прыпяццю парадніла мяне з Віталём, які з-за касінерскай ідэі здаваўся амаль сваяком. Пасля ногі завялі мяне ў завулак і я пабачыла славутую браму, тую ж самую, якая паклікала мяне ў Любашоў.

* * *

Антон Асэндоўскі, на жаль, не пазначыў пісьмовай крыніцы, дзе так прыгожа адмаляваная любашоўская прыслуга. Не пералічаныя асвечаныя госці-чужаземцы ды прадстаўнікі інтэлектуальнай эліты Рэчы Паспалітай, а сам каларытны запіс заблытаны ў часе. Цяжка адназначна сказаць, ці гэты цэлы залаты пір адбываўся ў часы князя Дольскага, ці князя Вішнявецкага. Пра іх нельга адназначна сказаць: бацька і зяць. Князёў спалучалі пакручастыя сямейныя сувязі. Спачатку Міхал быў прыёмным сынам князя Дольскага. У палац вялікага магната патрапіў разам з маці-ўдавой Аннай Вішнявецкай з Хадароўскіх, апошняй жонкай Дольскага. Сужонства, пра якое піша падарожнік, аранжавала ў атмасферы засакрэчанасці маці малалетняга Міхала. Адразу пасля смерці Яна Караля ў 1695 годзе яна зрабіла ўсё, каб не выпусціць з рук маёнтак па мужу ды выдала замуж Кацярыну, дачку Дольскага з ранейшага шлюбу, за свайго сына. Вяселле зладзілі ў спеху і сакрэце ды зразу адправілі маладога ў Парыж, каб там падвучыўся і набраў прыстойных манер. На той час маладажону было пятнаццаць гадоў.

Шмат неадназначных здагадак выклікаюць польскія крыніцы пра паходжанне Любашова. Менавіта пачатак мясціны прыпісваюць асобе Яна Караля Дольскага (1637-1695), які пабудаваў драўляны палац і калегію піяраў. Спачатку месца называлася Новы Дольск, але яно не прыжылося і ў наступных стагоддзях, аж на па 1939 год, існавала як *Любешув*. Верагодна, „надта адукаваныя пакаёўкі і лакеі" служылі ў палацы Яна Караля Дольскага. У князя была рэпутацыя чалавека, які заўсёды карыстаўся прызнаннем і ласкай каралёў. Цяжка пералічыць усе яго званні і пасады. У трыццаць дзевяць гадоў ён быў назначаны вялікім падчашым літоўскім, дзевяць гадоў пазней атрымлівае званне прыдворнага маршалка літоўскага ды ў 1691 годзе — вялікага маршалка літоўскага. У гады шведскага патопу ў чыне палкоўніка камандуе сваёй харугвай, б'ецца пад Варшавай. Прымае ўдзел у ваенных кампаніях польска-рускай вайны 1654-1667 гадоў, а ў 1669 годзе ўспамагае элекцыю Міхала Карыбута Вішнявецкага. Бярэ ўдзел у Хоцімскай бітве, а сойм узнагароджвае яго пенсіяй „за мужнасць і адвагу" велічынёй у 20 тысяч злотых. Яшчэ большыя магчымасці, прэстыж і грошы прыносіць паступленне ў паслы-дэпутаты, каб служыць радай каралю. Верагодна, у яго навадольскім палацы, часта гасцюе сам кароль Міхал Карыбут Вішнявецкі. На салоны барочным патокам уліваецца парыжская мода. Модны мужык аздабляе галаву парыкам з доўгімі, напудранымі локанамі. Кароль яшчэ і паліглот, ведае ажно сем замежных моў. Праўда, палітычныя апаненты бязлітасна кпяць з Міхала Карыбута Вішнявецкага. Прышпільваюць яму ярлык дэндзі, які ведае сем моў, але ні на адной з іх не ўмее сказаць мудрага слова. Князь Дольскі, адукаваны і бывалы ў Еўропе выхаванец езуітаў, бароніць караля. Ён не супраць парадніцца з ім праз жаніцьбу з удавой Аннай Вішнявецкай і стаць прыёмным бацькам Міхалу Сервацыю, на якога разам з рукой князёўны Кацярыны пяройдзе Новы Дольск. Той пасынак і зяць у адной асобе, што пасля вянцу з'язджае вучыцца і дарастаць у Парыж, у жыцці заваюе не меншую славу і багацце, як айчым. Ён пабудуе новую рэзідэнцыю ў Любашове, і верагодна, пасля яго застанецца імпазантная брама, якую трыста гадоў пазней сфатаграфуе кракаўскі прайдзісвет Асэндоўскі.

(працяг будзе)

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**

* Ferdynand Antoni Ossendowski, *Polesie*, Poznań 1934.

ISSN 0546-1960